# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

21 САКАВІКА 2003 г. № 12/4198 КОШТ 520 РУБ.


АНОНС!

**МЫ — БЕЛАРУСЫ!**

*"Няхай акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!"*

5

*У Беларускай акадэміі музыкі* ужо 25 год існуе клас ігры на гітары

10-11



Яго благаславіў *Якуб* *КОЛАС*

13



СЕМІНАРЫ

# МАЛАДЫЯ ГАДЫ, МАЛАДЫЯ ЖАДАННІ

*13—14 сакавіка ў мінскім Доме прэсы прайшоў семінар маладых літаратараў Беларусі. У ім прынялі ўдзел больш сарака пачынаючых паэтаў, празаікаў, драматургаў і крытыкаў.*

Матэрыялы семінара чытайце на стар. 2-3, 4-5, 6-7






Фота Кастуся ДРОБАВА

## КОЛА ДЗЁН

***15 сакавіка наша краіна адзначыла свята — Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.***

***Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, выступаючы перад студэнтамі і выкладчыкамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, яшчэ раз падкрэсліў, што Беларусь — суверэнная еўрапейская краіна, і яна ніколі не страціць сваю незалежнасць. Саюзнае будаўніцтва з Расіяй не сведчыць пра страту нашага суверэнітэту, як палохаюць некаторыя.***

### СУМНАЯ ДАТА

Напрыканцы сакавіка спаўняецца 60 гадоў з дня трагедыі ў Хатыні. Да гэтай сумнай даты творчай майстэрняй лаўрэата Ленінскай прэміі Леаніда Левіна, пад кіраўніцтвам якога напрыканцы 60-х гадоў мінулага стагоддзя і ствараўся мемарыяльны комплекс, распрацавана праектна-каштарысная дакументацыя па рэканструкцыі Сцяны смутку ў Хатыні. У 2003 годзе Міністэрствам культуры плануецца выдзеліць 90 мільёнаў рублёў на рамонтна-рэстаўрацыйныя работы. Да 60-годдзя хатынскай трагедыі распрацаваны і зацверджаны Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь план мерапрыемстваў па ўшанаванні гэтай даты.

### УШАНАВАННЕ ТЫДНЯ

На мерапрыемствы па ўшанаванні памяці народнага артыста СССР, мастацкага кіраўніка ансамбля "Песняры" Уладзіміра Мулявіна з прэзідэнцкага фонду па падтрымцы культуры і мастацтва вырашана выдзеліць 70 мільёнаў рублёў. Першая з запланаваных акцый — устаноўка мемарыяльнай дошкі і надмагільнага помніка ў Мінску. Распрацоўваецца праект аб ушанаванні памяці У. Мулявіна і на яго радзіме, у Екацярынбургу. На базе студыі, перададзенай у карыстанне калектыву, мяркуецца стварыць Нацыянальны музычны цэнтр "Песняры" імя Уладзіміра Мулявіна. Плануецца выданне анталогіі ўсіх песень ансамбля, а таксама разглядаецца пытанне аб наданні адной з вуліц нашай сталіцы імя Мулявіна.

### САЙТ ТЫДНЯ

16 сакавіка ў Інтэрнеце па адрасе www.chur ch.by з'явіўся афіцыйны сайт Беларускай праваслаўнай царквы. Асноўныя раздзелы інфармацыйнага партала будуць рэгулярна папаўняцца новымі матэрыяламі, якія дадуць магчымасць наведвальнікам знаёміцца з гісторыяй і сучасным станам Праваслаўнай царквы ў свеце.

### ПЛАНЫ ТЫДНЯ

3 і 4 ліпеня гэтага года плануецца правядзенне фестывалю "Сярэдневяковы Нясвіж". Такім чынам будзе адзначана 780-годдзе аднаго са старэйшых гарадоў нашай краіны. У дні фестывалю Нясвіж перанясецца ў XVI стагоддзе. Плануецца правядзенне розных шэсцяў, кірмашоў, паказальных выступленняў лучнікаў, рыцараў, факіраў. Да ўдзелу ў свяце будуць запрошаны госці з 80 краін.

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Споўнілася 90 гадоў вядомаму паэту, аўтару гімнаў Савецкага Саюза і Расіі Сяргею Міхалкову. Ад Саюза беларускіх пісьменнікаў віншаваў паэта з юбілеем старшыня СБП Алесь Пашкевіч.

### ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

У рамках праграмы інфарматызацыі "Электронная Беларусь" мяркуецца стварыць адзіны дзяржаўны рэгістр насельніцтва. Асновай яго паслужыць персаніфікаваны ўлік у сістэме сацыяльнага страхавання. Зборны электронны банк будзе адлюстроўваць склад працоўных рэсурсаў, міграцыю насельніцтва, яго сацыяльны склад і занятасць. У будучым кожны жыхар нашай краіны атрымае ў якасці пасведчання асобы магнітную картку. Ідэя запланавана ажыццявіцца да 2006 года.

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

За сёлетнія два месяцы ўклады насельніцтва ў нацыянальнай валюце ў беларускіх банках павялічыліся на 143.056.1 мільёна рублёў, або на 21,5 працэнта. Дэпазіты ў замежнай валюце ўзраслі на 16,2 мільёна долараў, або на 4,1 працэнта. Такім чынам на пачатак сакавіка яны дасягнулі ў нацыянальнай валюце 809855,7 мільёна рублёў, а ў замежнай — 406,5 мільёна долараў.

### ДАЗВОЛ ТЫДНЯ

10 сакавіка ў нашай краіне адкрыўся веснавы сезон палявання. Дакладней, з 10 сакавіка па 10 мая, з досвітку да 10 гадзін і з 18 гадзін да надыходу цемнаты можна паляваць толькі на гусей, "на пералёце". На самца цецерука на такавішчах дазваляецца паляваць з 20 сакавіка па 10 мая, з досвітку да 9 гадзін.





# МАЛАДЫЯ ГАДЫ, МАЛАДЫЯ ЖАДАННІ...

На семінар маладых літаратараў (арганізаваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь і Рэдакцыйна-выдавецкай установай "Літаратура і мастацтва"), які праходзіў у Доме прэсы 13 і 14 сакавіка, з усёй Беларусі прыехалі паэты, празаікі, драматургі, перакладчыкі, крытыкі. Віталі нашу літаратурную моладзь міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Міхаіл Падгайны, намеснік міністра Лілія Ананіч, дырэктар Інстытута літаратуры НАН Беларусі Уладзімір Гніламёдаў, дырэктар рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва" Таіса Бондар, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Раіса Баравікова, рэдактар штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" Віктар Шніп і іншыя. Былі сярод прысутных прадстаўнікі Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі.



Пісьменнікі Леанід Дайнека, Павел Вераб'ёў, Уладзімір Марук, Алесь Наварыч, Леанід Галубовіч, Казімір Камейша, Навум Гальпяровіч і Алесь Масарэнка ў сваіх выступленнях заклікалі юных літаратараў быць адказнымі за сваю творчасць, глыбей разумець і паказваць наша жыццё, пісаць так, каб кнігі выдаваліся і карысталіся попытам.

Адбыліся пасяджэнні літаратурных секцый. Удзельнікі семінара атрымалі магчымасць пагаварыць пра беларускую літаратуру і яе будучыню. На семінары панаваў дух узаемаразумення, сугучнасці інтарэсаў і супрацоўніцтва. На другі дзень адбылася творчая вечарына ўдзельнікаў семінара. З новымі творамі аўдыторыю пазнаёмілі маладыя літаратары — Н. Шук, А. Арашонак, Т. Барысюк, Я. Дашына, І. Ляшкевіч, М. Цімашэнка, А. Спрынчан, І. Клепікаў, Т. Сівец, Т. Будовіч, А. Багамолава, Г. Мікпашэвіч, Д. Лосева, А. Алекса, А. Кузьмічова, Р. Цісецкі, В. Зелянкоў, А. Шарапа, І. Пракоф'еў, Т. Дубоўская і інш. Яны працуюць у розных жанрах, але іх усіх аб'ядноўвае імкненне пісаць адметна і надзённа. Справа тут не ў палітычных поглядах: літаратары аднадушна пагадзіліся з працытаваным Л. Дайнекам выслоўем 90-гадовага рускага пісьменніка С. Міхалкова, які, гаворачы пра літаратуру, сказаў: "Волга цячэ пры любой уладзе".

**С. Я.**

---

**Таццяна СІВЕЦ**

•

*Раней пісалі пёрамі паэты,*
*І, мабыць, ад таго*
*іх трыялеты*
*Крылатымі і лёгкімі былі.*
*Ці, можа, справа ўвогуле*
*не ў гэтым?*
*А Вы мне адказаць змаглі б?*
*Калі пісалі пёрамі паэты,*
*Чаму іх вершы лёгкімі былі?*



•

*Пакуль твая рука цалуе*
*стромкі клавіш,*
*Ты марыш пра снягі*
*пялёсткавых завей.*
*І тое, што здабыў,*
*і што яшчэ спаткаеш,*
*Гатовы ты аддаць*
*за погляд з-пад павей.*

*Але свабоды сам сябе*
*ізноў пазбавіш —*
*На сэрцы палыны*
*і мёрзлая жарства.*
*Пакуль твая рука цалуе*
*стромкі клавіш,*
*Я з келіха надзей*
*п'ю слодыч харастава...*

•

*І прыйдзе ўсё без нашага*
*жадання:*
*Жыццё, вясна, хвароба*
*і каханне...*
*Нібыта аскабалак крышталю,*
*Зіхціць у пальцах*
*сакавіцкі лёд.*
*Мы з-пад аблокаў*
*бачылі зямлю,*
*Але стамляе доўгі пералёт...*

*Мы толькі зерне*
*ў Божае сяўбе,*
*Ды, быццам пастка,*
*кліча далягляд.*
*Сягоння — збан, назаўтра*
*— біты гляк.*
*Ніхто не паміраае для сябе...*

**Паўлюк МІЦКЕВІЧ**

**МОРА І ВОСЕНЬ**

*Бачна з акенца*
*простае мора.*



*Сіняе, чорнае —*
*не ўсё адно?*
*Мары любыя*
*моры адкрыюць,*
*нават калі*
*за фіранкай акно.*

*Слёзы каханай*
*выпіць няпроста,*
*ў моры ж салёным —*
*сотні вачэй.*
*Сотні гадзінаў*
*іх патапілі,*
*ў восені хвалі*
*сталі гарчэй.*

*Рваныя пёры*
*ветру вярнуць бы,*
*ў брудзе пад лужай*
*ўбачыць душу.*
*Чорнае неба...*
*Чорнае мора?*
*Шэрае неба —*
*мора дажджу?*

**Ірына ПОЎХ**

•

*Вяселле спраўляе зіма*
*пад сола завеі з аркестрам,*
*і вецер бярэ кантрабас*
*з адзінай басовай струною,*
*скрыпічныя партыі шын*
*фальшывяць на коўзкім*
*асфальце,*
*аб нечым шапочуць*
*трашчоткі*
*змерзлых, заснежаных*
*крокаў.*

*Вяселле спраўляе зіма,*
*і фракавую афіцыйнасць*
*дамоў парушае натоўп*
*ліхтарных адбіткаў*
*на снезе,*
*як быццам цыганскі барон*
*патрапіў раптоўна на баль.*

*Вяселле спраўляе зіма.*
*Тут кожнае дрэва —*
*нявеста.*

## Раіса БАРАВІКОВА (секцыя паэзіі):

"Кожнаму пісьменніку, незалежна ад узросту, патрэбен чытач, іншымі словамі, увага да яго твораў з боку грамадства. Маладым жа гэтая ўвага патрэбна асабліва. Талент — талентам, але, калі ён незапатрабаваны, як расквітнець яму? "Калі "зоркі" запальваюць, значыцца, гэта некаму трэба", — сказаў паэт у мінулым стагоддзі.

Трэба перш за ўсё Беларусі, нашай зямлі, Бацькаўшчыне, значыцца, гэтыя зоркі мы ўсім грамадствам і павінны запальваць. Ва ўсялякім выпадку я амаль упэўнена, што з тых імёнаў маладых паэтаў, чыю творчасць мы разглядалі на семінары разам з Алесем Бадаком, хоць некалькі, ды абавязкова ўспыхнуць зоркамі...

Ірына Поўх, Віка Трэнас, Ірына Тоўсцік, Паўлюк Міцкевіч, Юлія Грабёнкіна, Святлана Кананович, — гэта не проста таленавітая моладзь, гэта паэты, якія ўжо адбыліся ў нашай літаратуры. А што да твораў — яны на старонках "Маладосці". Чытайце, пераконвайцеся, што наша зямля не збяднела на таленты. У нас ёсць добры працяг, які па-свойму будзе ўпісваць нашу паэзію ў скарбонку сусветнай літаратуры."



### Алена БАГАМОЛАВА

### ЗА ЗІМОВЫМ ШКЛОМ...

*Кружыць-круціцца*
*зімы верацяно,*
*Не спыняецца ні на хвіліну.*
*Сыпле колкім снегам*
*у маё акно,*
*Нібы студзіць-замятае успаміны...*
*Ды не ведае зіма адно:*
*Просяцца са снегам у акно*
*Сіні кураслеп,*
*зялёны лес,*
*Белая чаромха,*
*белы бэз...*
*Ах, якое дзіўнае за шклом кіно:*
*Кружыць-круціцца*
*зімы верацяно.*

### Ганна МІКЛАШЭВІЧ

•

*Я занатоўваю смяшынкі мілых воч,*
*Рыфмую вуснаў тонкія абрысы...*
*Недаравальна-згубленая ноч*
*Халодных зорак набывае рысы.*
*Запісваю расчуленыя словы,*
*А космас думак нараджае лёд*
*З празрыстасцю нябесна-адмысловай.*
*Я занатоўваю сусветы таямніц,*
*Рыфмую непрыснёныя сюжэты...*
*І што за справа мне да тых блудніц,*
*Якімі цешацца бяздомныя паэты.*

•

*Вячэрнія мроі...*
*Аблокі, як вочы, паўнюткія слёз...*
*Нядоўгія строі...*
*Вандроўка, змяніўшая блытаны лёс...*
*Жывіца пачуцця...*
*Рака пераблытаных хваль...*
*Жаданне вярнуцца —*
*Наперадзе мройная даль.*

### Таццяна БУДОВІЧ

### БЭЗАВЫ ВАЛЬС, АЛЬБО ВЯСНОВЫ САНТЫМЕНТ

*Бэз, бэз, бэз...*
*І зіхоткі нябесны блакіт.*
*І туга адплывае ў нябыт*
*Па-над хвалямі вогкай травы,*
*Хоць каторую весну не Вы*
*Са мной дзеліце радасць і смутак...*

*Дождж,*
*дождж,*
*дождж,*
*Нібы срэбра пад сонцам зіхціць,*
*На сцяблінах, суквеццях, лісці.*
*І дарэшты прамоклы абутак.*

*Шлях,*
*шлях,*
*шлях...*
*Адзінокі мой шлях, далячынь...*
*І мільён справядлівых прычын*
*Адзіноту сваю апраўдаць.*

*Не любіць,*
*не чакаць,*
*не жадаць,*
*Нeспадзеўкі сустрэць Ваш пагляд —*
*Вочы ў вочы...*
*Нямы далягляд.*
*Толькі мрояў утульны палон,*
*Нібы сон,*
*нібы сон,*
*нібы сон...*

### Дар'я ЛОСЕВА

•

*І аднойчы ўбачыш*
*родны край*
*І слязу-серабро на дарозе.*
*О, сяброўка мая! Выбачай,*
*Што адна іду да бярозы.*

*Мне не трэба нікога, ніхто,*
*Каб слязою сваёю дзяліцца.*
*Толькі белае ў небе акно,*
*Толькі божая ў сэрцы сініца.*

•

*Мамачка-мама...*
*Помню вакзалы,*
*Помню твой плач,*
*Калі мне казала*
*Пра сіні палац:*
*— Хоць бы пакойчык,*
*Хоць бы дамок*
*Ад жудаснай ночы,*
*Ад страшных аблок!*

*...Казала... Казала...*
*Я слухала гора,*
*Здаецца, учора.*
*...Мінула нямала.*
*А лёс —*
*на вакзалах...*

### Аксана СПРЫНЧАН

•

*"Помнік архітэктуры*
*пачатку XXI стагоддзя.*
*Ахоўваецца*
*самай незалежнай дзяржавай" —*
*шыльда,*
*устаноўленая маёй памяццю*
*на замку*
*былога кахання.*

•

*Першая снежная баба.*
*Снег вакол растае.*

*На руках у кляновага лісця.*

### Святлана КАНАНОВІЧ

•

*Горы заплакалі*
*ад безвыходнасці,*
*Калі іх затапляла мора...*

*Плакаў Пегас*
*аб чалавечай годнасці,*
*Плакала святло на гора...*

*Плакалі горы*
*ад безвыходнасці,*
*Калі іх затапляла мора...*

### Усевалад ГАРАЧКА

•

*Лісце*
*Люстэркамі стала,*
*У кожным з якіх —*
*Жоўтае сонца,*
*А болей*
*Нічога няма.*
*Паглядзіся*
*У кожнае з іх:*
*Толькі*
*Жоўтае сонца.*

•

*Вясна,*
*Каб потым*
*Зноў была восень,*
*Каб з жоўтага лісця,*
*Як з агню,*
*Выйшлі*
*Чорныя дрэвы.*

## Леанід ГАЛУБОВІЧ (секцыя крытыкі):

"У адрозненне ад некаторых семінарыстаў-другагоднікаў — гэта была па сутнасці "мая першая спроба пяра"... у ролі кіраўніка літаратурнай штудыі. Дваццаць гадоў, пасля свайго дэбюта на падобным семінары ў Доме творчасці Каралішчавічы (1981г.), я не ўдзельнічаў у такіх масавых літарацкіх мерапрыемствах. Таму ў пэўнай меры пачуваўся нароўні з маладымі. Наш дыялог быў змястоўным, хоць і рознадумным. Мы прыйшлі да высновы, што "беларуская літаратура, хоць і не без паталогіі, але яшчэ жывая, больш за тое, у яе ёсць сур'ёзныя перспектывы для росквіту, паколькі вышэць і ўздымацца можа толькі прыземленае..."

Нас было трое з адным "невядомым". Кажучы пра незнаёмца, я маю на ўвазе патэнцыяльна здольнага педагога з Брэста Сяргея Грышкевіча, які ўжо з'яўляўся са сваімі рэцэнзіямі на старонках "ЛіМа". Усевалад жа Гарачка і Наталля Дзянісава — людзі на літаратурным слыху, крытыкі пільныя, арыгінальныя і бескампрамісныя, якія могуць "выдаць на гарэхі" ўсялякаму безразважнаму блытаніку з апломбам. Ужо сёння яны складаюць трывалы аўтарскі актыў штотыднёвіка. (Шчыра кажучы, не зашкодзіла б, каб у дадатак да С.Грышкевіча на семінары было яшчэ колькі новых і адметных "крытычных" імёнаў, асабліва з правінцыі.)

Не зусім правільна і тое, што наша літаратура знаходзіцца ў нялепшым стане з-за адсутнасці сур'ёзнай крытыкі, як даводзяць некаторыя "самадзейныя геніі". Гэта як у той показцы пра куру і яйка... Абмазгаваўшы пытанне шырэй, мы прыйшлі да высновы, што сітуацыя адназначна праясніцца, як толькі з яйка штосьці альбо хтосьці вылупіцца... (Вось толькі хапіла б у нашай куры цярпення яго высядзець.) І тады, пэўна, абодва бакі застануцца задаволенымі.

З таго, што і дзе адбывалася на семінары, нам упадабаўся лімаўскі пакой аддзела крытыкі (там было цёпла). А з тых, хто адбыўся і ўпадабаўся нам — гэта найперш паэткі Ярына Дашына, Віка Трэнас, Аксана Спрынчан і дзве Таццяны — Сівец ды Будовіч... Астатнія вырашылі адсочваць па публікацыях...

За час семінара мы з многімі сышліся і ні з кім не пасварыліся. З Наталляй і Усеваладам (мінчукамі) будзем часта бачыцца, а з Сяргеем дамовіліся ліставацца і сумоўнічаць праз тэлефон...

Адным словам, пісаць — не чытаць, таму праз год, як пісаў Пестрак, зноў "сустрэнемся на барыкадах"!



# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ — ЛІТАРАТУРА

### Першы Нацыянальны канал

Панядзелак, 24 сакавіка — "Кола часу" Радыёфакт.

Аўторак, 25 сакавіка. "Брама", Аўтарская праграма Навума Гальпяровіча. 22.40.

Серада, 26 сакавіка — "Авансцэна". Аўтарская праграма Святланы Шалімы. 22.30.

"Кароткія гісторыі" — 24.00 гадзіны.

Чацвер, 27 сакавіка" — "Палітра" Аўтарская праграма Г. Шаблінскай. 22.30.

"Кароткія гісторыі" —24.00 гадзіны.

Пятніца, 28 сакавіка — "Сентыментальнае паляванне" Аўтарская праграма Ірыны Шаўляковай. 22.30.

"Кароткія гісторыі" — 24.00 гадзіны

Субота — "Літаратурны праспект". 10.45.

"Клас і К" — 17.00.

Нядзеля — "Беларускі альбом" 14.00 "Кніжны кіёск" — 17.00, "Канцэртная зала" — 21.30.

### Канал "Культура"

"Клуб дамаседаў". Панядзелак-аўторак, у 11.00 чытаем разам раман У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", у сераду ў гэты час — "Хронограф" М. Прохар, у чацвер — праграма В. Макарэвіча "Натхненне".

"Літаратурны аўторак" у "Сімфоніі дня" 25 сакавіка прапануе наступныя сустрэчы: у 12.10 — "Дзеяслоў" Л. Рублеўскай, у 13.10 — "Таленты з глыбінкі" М. Прохар, у 14.10 — "Магія творчасці" З. Каваленкі, прысвечана народнаму артысту РБ Ю. Сідараву, у 14.40 — "Сугалоссе" У. Дзюбы, з 15.00 — "Ліставанні" І. Рыбіцкага, у якіх — эпісталярная спадчына рускіх кампазітараў С. Пракоф'ева і М. Мяскоўскага, у 15.30 у "Паэтычным радыётэатры" — спектакль паводле вершаў Я. Янішчыц і М. Стральцова "Яшчэ адна знічка кахання", у 16.10 — "Гаспода" Г. Шаблінскай, госць студыі — паэт Л. Дранько-Майсюк (паўтор — у суботу, у 10.10).

З фондаў радыё: П. Пестрак. "Сустрэча". Інсцэніраванае апавяданне (17.00). У нядзелю — "Тэатр перад мікрафонам" З. Бядуля. "Салавей" — радыёспектакль. Пачатак у 19.00.

# СУСТРЭЧЫ Ў «БЕЛАРУСКАЙ ХАТЦЫ»

6 сакавіка ў філіяле Літаратурнага музея М. Багдановіча "Беларуская хатка" адбылася чарговая вечарына з цыкла "Беларускі народны каляндар". Гукаць вясну прыйшлі фалькларыст, выкладчык беларускай міфалогіі БДУ культуры, выканаўца традыцыйных беларускіх спеваў, спявачка фольк-рок гурта "Юр'я" Наталля Матыліцкая і мастак-графік, майстра музычных інструментаў, музыка Алесь Лось. Прысутныя змаглі даведацца шмат цікавага пра тое, як і калі гукалі вясну нашыя продкі, якія прыкметы звязаны з першымі днямі вясны, пачулі аўтэнтычныя спевы Н. Матыліцкай у музычным суправаджэнні А. Лася.

Алесь Лось прафесійна займаецца аднаўленнем старажытных беларускіх музычных інструментаў. На сустрэчы падчас вечарыны ўсе змаглі пачуць гранне на ліры, якую зрабіў майстра, і цікавую гісторыю пра лірнікаў, што вандравалі па беларускіх землях шмат гадоў таму. Як ілюстрацыя, у выкананні музыкі прагучалі песні, якія спяваліся лірнікамі ў час посту.

Тацццяна ДУБОЎСКАЯ,
старшы навуковы супрацоўнік ЛММБ



**Юлія ГРАБЁНКІНА**

•

*Пялёсткамі*
*Стрэчных рамонкаў*
*Ляцяць*
*Пачуццёвыя рэбусы,*
*На пальцах*
*Разлічаны лёсы,*
*І скінуты*
*Цяжар з душы.*
*Рукамі цёплымі...*
*Дотыкам*
*Ты злеплены*
*З паху чаромхаў,*
*Разліты*
*Вадою крынічнай*
*І рэхам*
*Глухіх навальніц.*
*Ты вольны,*
*Як вецер у полі,*
*Нябачны,*
*Як дзённыя зоркі,*
*І вечны*
*У вечнасці свету*
*У дзень нараджэння*
*Нябёсаў.*



**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ (секцыя паэзіі):**

"У секцыі паэтаў, якую мы вялі супольна з Паўлам Вераб'ёвым, на мой погляд, аказаліся цікавыя розныя па творчай скіраванасці аўтары. Паэзіі Таццяны Сівец, прынятай нядаўна ў Саюз пісьменнікаў, уласцівы філасофскі роздум, інтэлектуальнасць. Таццяна Будовіч, студэнтка-гісторык, піша настраёвую, акварэльную лірыку і адначасна — пародыі. Лепшыя вершы Алены Багамолавай, мовазнаўцы, выкладчыцы Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры, вызначаюцца тонкасцю малюнка. Паэзія Ганны Міклашэвіч, настаўніцы са Случчыны, прасякнута любоўю да роднага краю. Дар'я Лосева, адзінаццацікласніца 23-й мінскай гімназіі, уразіла грамадзянскай пазіцыяй, шчырасцю пачуццяў, якія выяўляюцца ў яе вершах. Алега Алексу, студэнта універсітэта культуры, цікавіць эксперымент, нетрадыцыйныя паэтычныя формы. Думаецца, разгляд творчасці кожнага з названых аўтараў быў дастаткова грунтоўны, каб паспрыяць далейшаму творчаму росту і дапамагчы калі не пераадолець, дык усвядоміць, што гэтаму працэсу перашкаджае".

**Ірына ЛЯШКЕВІЧ**

### ХАТКА ПРЫ БАЛОЦЕ

*Там, у краі журавінным,*
*З туманамі ў згодзе*
*Дрэмле ў гушчары крапіўным*
*Хатка пры балоце.*

*Стогнуць ноччу аканіцы,*
*Шмат гадоў гасподзе...*
*Напалову ўжо ў зямліцы*
*Хатка пры балоце.*

*Хто тут калісь гаспадарыў*
*І гадаў, што будзе?*
*Хто кахаў, аб шчасці марыў? —*
*І не помняць людзі.*

*"Засталася сіратою", —*
*Кажуць у народзе.*
*Можа стрэлася з бядою*
*Хатка пры балоце?*

*Вецер ладзіць шматгалоссе,*
*Зоры ў карагодзе...*
*Колькі шчэ ёй засталося,*
*Хатцы пры балоце?..*

**Ірына ТОЎСЦІК**

### НЯВЫЗНАЧАНАЕ СУЗОР'Е

*Слядок у слядок —*
*Сумній за чаканнем...*
*Крадзешся скрозь*
*старабудоўлі, Актор?*
*Актор ты ў масцы,*
*й пад маскай — Актор.*
*Душа твая — зорнае неба...*
*Сузор'е Блізнятаў блішчэла ўчора.*
*Сёння*
*сузор'е Рака штурхае*
*на адступленне?*
*Не варта:*
*на беззоркавым небе заўтра*
*ўзнікне леў, магутны, няўпраўны.*
*Захочаш узяць сілай, —*
*не ўбачыш,*
*не знойдзеш мяне сярод масак,*
*якія так любіш мяняць.*

*Слядок у слядок —*
*адчай за сумнівам.*
*Зрываеш маскі, Актор?!*
*Адна засталася?*
*Занадта павольна сцярушваеш*
*Ссохлую фарбу...*

**Віктар ІВАНОЎ**

### ТРЫЗІМЕННЕ

*Зіма, яшчэ такая маладая,*
*І дзень, і ноч стаіць самааддана,*
*Як елку, упрыгожвае наш дом:*
*Узімку пахне цытрусамі лета,*
*І восень, брудная, нібы шкарпэткі,*
*Узімку пахне пральным парашком.*

*І я хаджу з асадкай, захапленне*
*Адчуўшы ад атручанага ценю,*
*Блакітнага на жоўтым,*
*быццам кроў.*
*Хаджу я паглядзець на цень*
*у школку,*
*Сяджу на ўроках, быццам на іголках.*
*Сяджу,ператвараю твар у твор.*

*Зіма хварэе. Снег ідзе дахаты,*
*Пірацкі аднавокі, пескаваты;*
*Яна яго праводзіць да вясны,*
*Развітваюцца і абодва плачуць,*
*Бо рак у снега, у зімы — гарачка,*
*Абодвум засталося два-тры дні.*

**Алег АЛЕКСА**

•

*Холад ударыў, і пералётныя птушкі*
*Цягнуцца клінам на поўдзень,*
*знікаюць у сонцы,*
*Ў золаце промняў апошніх,*
*у нябесным блакіце.*
*Кут пакідаюць свой родны.*
*Не ўсе яго ўбачаць вясною:*
*Слабыя згінуць.*
*На памяць аб іх застанецца*
*Кветка, што вырасце*
*Ў краі, пакінутым некалі*
*ў пошуках шчасця.*

**Надзея ШУК**

### КРЫЖЫ

*За кожнаю вёскай паныла*
*Да могілак сцежка бяжыць, —*
*Туды, дзе стаяць*
*на магілах*
*І ў неба глядзяцца крыжы.*

*А хто пад крыжамі — няважна.*
*Крыжы за пасады вышэй.*
*Зусім непрыкметна, нябачна*
*Змяняюць унукі дзяцей.*

*Забыты сямей радаводы,*
*Забыты сівыя дзяды.*
*Над памяццю горкай народа —*
*Крыжы небыцця*
*і жуды.*

*Старэюць, радзеюць дубравы,*
*І свечка сякера быцця, —*
*Спявае аб даўняе славе,*
*Бурлівых падзеях жыцця...*

*І мы пад крыжамі спачынем, —*
*Такі ўжо ад Бога нам лёс.*
*Крыжы над маёю Айчынай*
*Глядзяцца*
*ў бяздонне нябёс.*



## Міхась ПАЗНЯКОЎ (секцыя паэзіі):

"Па запрашэнні часопіса "Нёман" у семінары маладых літаратараў удзельнічалі Андрэй Цяўлоўскі, Анастасія Кузьмічова, Грыгорый Цісецкі і Васіль Зелянкоў. Прыемным адкрыццём для рэдакцыі часопіса стаў паэт і перакладчык Андрэй Цяўлоўскі — нядаўні аспірант, а цяпер малады выкладчык тэхнічнага універсітэта. Ён здзівіў высокамастацкімі перакладамі на рускую мову вершаў З. Марозава, У. Карызны, В. Жуковіча. І сам піша вершы дабротныя, грамадзянскага гучання.

Анастасія Кузьмічова — лірык, чалавек тонкай душэўнай структуры, глыбокай пачуццёвасці. Большасць яе вершаў — паэзія асабістага жыцця. Валодае зайздросным паэтычным бачаннем. Дэбютуе ў "Нёмане" падборкай вершаў у трэцім (сакавіцкім) нумары. Варта ёй не спыняцца на дасягнутым, удасканальваць майстэрства, больш патрабавальна ставіцца да сябе, пашырыць тэматычныя абсягі, звярнуцца да грамадзянскай лірыкі.

Грыгорый Цісецкі — ліцэіст. Дэбютаваў у "Нёмане" ў канцы мінулага года падборкай вершаў. Творы яго — белы верш, верлібр. Вельмі здольны творца, хоць часам перанасычае вершы асацыятыўнымі вобразамі, гіпербалай, параўнаннямі... Надараецца, што замінае яму і шматслоўнасць. Вучоба, набыццё вопыту, патрабавальнасць да сябе павінны дапамагчы яму ўдасканаліць паэтычнае майстэрства, стаць прафесійным паэтам.

Васіль Зелянкоў — празаік, працуе ў жанры фэнтэзі. Напісаў некалькі раманаў. Першы з іх "Возвращение силы" выйшаў у выдавецтве "Беларускі кнігазбор" у 2001 г., калі аўтару было толькі 15 гадоў. Васіль добра валодае мовай, умее пабудаваць сюжэт. Але адчуваецца недахоп у стварэнні яркіх вобразаў, абмалёўцы дзеянняў, характараў, эпізодаў. А гэта можа прыйсці з набыццём жыццёвага і творчага вопыту. Канечне, было б больш прыцягальна і важна, калі б свае творы ён пісаў на беларускім ці блізкім нам матэрыяле, а не "падарожнічаў" у часе па далёкіх усходніх краінах... Але гэта залежыць ад самога творцы, ягоных магчымасцяў.

Семінар стаў вельмі карысным для маладых літаратараў. Упэўнены, што ён будзе значным штуршком у іх творчай хадзе наперад".



Сяргей ПАТАРАНСКІ

### НАКЦЮРН

*Самотнай жнівеньскай начы*
*разбіла неба кубак цёмны,*
*згубіўшы ў небыцці ключы*
*ад дзён мінулых сонечных і цёплых.*

*Здаецца, скончылася ўсё*
*і жнівень - наша папялішча,*
*дзе добры час ад нас уцёк,*
*а холад злосны мары нішчыць.*

Віка ТРЭНАС

•

*Квітнее сонца. Хочацца спяваць.*
*Праз неба прабіваюцца дажджы.*
*На пальцы праліваецца трава,*
*І нават нежывыя прагнуць жыць.*

*Паэтка крэсліць словы на вакне,*
*Паэтка на вясну глядзіць праз шкло.*
*Хаваецца ў вачах расталы снег.*
*Паэткі ў гэтым свеце не было.*



## Казімір КАМЕЙША (секцыя паэзіі):

"Я не першы раз кірую семінарам паэзіі і таму магу параўноўваць маладых паэтаў васьмідзесятых, дзевяностых гадоў і цяперашніх. Адразу скажу, што ўзровень майстэрства тых, хто прыходзіць у літаратуру, сёння значна большы, чым раней. З маіх семінарыстаў мяне найбольш парадавалі творы Аксаны Спрынчан. І хоць паэтка пачала пісаць параўнаўча нядаўна, але сваімі публікацыямі ў друку і новымі вершамі яна заявіла пра тое, што ў яе асобе мы маем таленавітага аўтара. Радуе паэтычны рост Ірыны Дашынай. Ігар Клепікаў спрабуе пісаць на гарадскую тэму. Тут ў яго шмат што атрымоўваецца і я спадзяюся, што ў хуткім часе творы гэтага паэта будуць часцей з'яўляцца на старонках нашых выданняў. Ірына Ляшкевіч і Марына Цімашэнка — паэткі традыцыйнага накірунку. У сваіх творах яны спрабуюць сказаць пра наш свет па-свойму і гэта ў іх часцей за ўсё атрымоўваецца. Спадзяюся, што семінар маладых літаратараў даў нашай творчай моладзі веру ў тое, што яны не кінуты на выжыванне, а маюць сярод старэйшых пісьменнікаў не толькі дарадцаў, але і паплечнікаў".



# МЫ — БЕЛАРУСЫ!

Як горда, як пашанотна павінны гучаць два гэтыя словы ў сэрцы кожнага з нас! **Мы — нашчадкі славутага старажытнага славянскага роду, дзеці зямлі, што, нягледзячы на ўсе навалы, войны і катастрофы, якое ўжо стагоддзе корміць-поіць нас, і мы абавязаны памятаць пра гэта.** Абавязаны — і перад продкамі, што не далі вынішчыць ні зямлі, ні мовы сваёй, і перад нашчадкамі, што ўзжадаюць і чыстае крынічнае вады, і чыстага, спеўнага слова беларускага, бо і ім, як нам, не жыць без гэтага...

Як пацвярджае шматвяковы вопыт, **ніякія і нічые ўказы і загады не створаць нічога ні ў эканоміцы, ні ў культуры, калі грамадскасць — усе мы! — будзем абыякавымі і бяздзейснымі.** Усё — і ва ўласным дабрабыце, і ў дабрабыце нашай краіны — залежыць ад нас. Ад нашай адданасці сям'і, справе, Айчыне. Ад нашай упэўненасці ў сваёй сіле, у сваёй праваце. Ад нашай перакананасці ў сваім праве гучна, горда заявіць усяму свету: мы — беларусы!

Няхай жа акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнародняй!

**Узгадайце род свой, азірніцеся на жыццё сваё, на ўсё, што выклікае ў душы пачуццё гонару, — і пішыце.**

Агульнымі нашымі намаганнямі кніга "Мы — беларусы!" пазначыць наша месца ў свеце і ў часе, былым і цяперашнім, стаўшы кропкай адліку для новага стагоддзя, для новага тысячагоддзя.

**Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; E_MAIL gazeta_lim@tut.by.**

# СВЯТА МУЗЫКІ, ПАЭЗІІ, КАХАННЯ

У Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі адбылася музычна-паэтычная сустрэча "Музыка. Паэзія. Каханне", прымеркаваная да свята 8 сакавіка. Гэтая імпрэза распачала серыю вечароў беларускай паэзіі і музыкі, што будуць збіраць аматараў нацыянальнага мастацтва кожны месяц.

Першая ж вечарына прадставіла прысутным лірычныя вершы П. Панчанкі, С. Грахоўскага ў выкананні студэнтаў лінгвістычнага факультэта БДУ Н. Аляксеенкі і Т. Сувалкі. Свае ўласныя творы прачыталі маладыя беларускія паэты — пераможцы паэтычных спаборніцтваў І. Сіроткін і Т. Канавод. Свежыя адценні ў паэтычную атмасферу ўносіла музыка. Вакальныя творы Л. Мурашкі, Э. Наско, К. Цесакова натхнёна выканалі выхаванцы Акадэміі музыкі В. Лесік і Ю. Казіміровіч, якая цяпер працуе ў Нацыянальным тэатры оперы Беларусі. Арганічнай часткай праграмы сталася прэзентацыя новай кнігі Ю. Татарынава "Аб каханні", урыўкі з якой прагучалі са сцэны ў выдатным выкананні дацэнта Акадэміі музыкі Э. Скуратавай. Дарэчы, менавіта ёй належыць ідэя правядзення серыі вечароў, прысвечаных беларускаму мастацтву. Удзел аўтара кнігі ў яе прэзентацыі дазволіў прысутным пазнаёміцца з яго поглядамі, задаць пытанні.

Адзінай ноткай смутку прагучала Адажыо Я. Глебава з балета "Маленькі прынц", выкананне якога было прысвечана памяці У. Мулявіна.

Падчас вечарыны залу ахінала лагодная атмасфера свята і адчуваўся цёплы подых вясны. Імпрэза прыцягнула да сябе ўвагу як сталых аматараў беларускага мастацтва, так і моладзі, пазначыўшы новы этап у развіцці творчых кантактаў паміж вядучымі ВНУ краіны — Акадэміяй музыкі і Белдзяржуніверсітэта. Працяг гэтага супрацоўніцтва чакаецца ў красавіку: чарговая сустрэча пройдзе пад назвай "Мой родны кут".

**Марына МРАЧКО, студэнтка III курса БАМ**

## ЗАПРАШАЕМ!

27 сакавіка 2003 года а 17-ай гадзіне ў Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф. Скарыны адбудзецца адкрыццё выставы карцін беларускага мастака з Феадосіі (Украіна) Уладзіміра КІРКЕВІЧА. У акварэльных карцінах адлюстраваны пейзажы гістарычных мясцін Беларусі.

Наш суайчыннік удзельнічаў больш чым у 100 выставах. Яго карціны знаходзяцца ў шматлікіх музеях, прыватных калекцыях Украіны і за мяжой.

Усе прадстаўленыя работы будуць перададзены мастаком у дар Скарынаўскаму цэнтру.

Сардэчна запрашаем наведаць выставу па адрасе: Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны, музей "Беларусы ў свеце", вул. Рэвалюцыйная, 15, 2-гі паверх.

**Даведкі па тэлефонах:**
**206-57-97, 220-93-50.**

# РЫЦАРСКАЯ КРАІНА

Ужо шосты год запар у Мінскім палацы дзяцей і моладзі праходзіць міжнародны фестываль сярэднявечнай культуры і музыкі "Белы замак". Яго ініцыятар і арганізатар – Ордэн Паўночнага храма, адно са старэйшых вайскова-гістарычных аб`яднанняў на Беларусі.

Бугурты (агульныя баі, дзе бярэ ўдзел не адна сотня ўзброеных вояроў), конкурс сярэдневечных строяў, пастановачныя баі з каскадзёрскімі элементамі, турніры лучнікаў і арбалетчыкаў, разнастайныя тэатральная і музычная праграмы – паспець пабачыць усё гэта разам было амаль немагчыма. А сёлета фестывальная праграма папоўнілася яшчэ і сярэдневечным балем, дзе кожны жадаючы мог станцаваць і вясёлы "конскі бранль", і ўрачыстую "алеманду". Яшчэ адным новаўвядзеннем сталася асаблівая ўвага арганізатараў да конкурсу касцюмаў, удзельнікам якога можна было стаць, толькі маючы адпаведны рэканструкцыйны строй, пашыты ўручную з натуральных матэрыялаў. Шкада толькі, што атэстацыя строяў кожнага паасобку вельмі замарудзіла працэс рэгістрацыі, у выніку чаго



гледачы чакалі пачатку фестывалю некалькі лішніх гадзін.

"Цвіком" фэсту стаў традыцыйны рыцарскі турнір, якому быў адведзены ўвесь другі фестывальны дзень. Нягледзячы на меншую ў параўнанні з папярэднімі фестывалямі геаграфію ўдзельнікаў – яны прадстаўлялі ў асноўным Расію, Украіну і Беларусь – жадаючых паспрачацца за перамогу на рысталішчы не паменела. Восем найдужэйшых рыцараў-зачынальнікаў прынялі выклік амаль адзінаццаці "хваль" вольных рыцараў. Нарэшце, пасля доўгага шэрагу гадоў, калі на "Белым замку"валадарылі выключна расіяне, перамогу атрымаў беларус – сэр Хлодвіг Лангабардскі (ён жа Вячаслаў Гембіцкі) з мінскай Уніі «Меч і крумкач». Месяцы ўпартых штодзённых трэніровак не прайшлі для яго дарма – нават з траўміраванай рукой рыцар бясспрэчна перамог лепшага на сённяшні час расійскага байца Сержа дэ Бефа (Сяргея Уколава). Застаецца толькі пашкадаваць, што гістарычнае фехтаванне пакуль не з`яўляецца алімпійскім відам спорту – інакш мы маглі б ганарыцца яшчэ адным чэмпіёнам-суайчыннікам. У той жа Расіі ўжо колькі год існуе прафесійная Федэрацыя спартыўнага фехтавання, а наш выдатны баец, пераможца сямі турніраў за апошнія два гады, нават не мае годнага спарынг-партнёра для трэніровак, бо для большасці нашай моладзі гістарычнае фехтаванне так і застаецца аматарствам.

Бліжэйшая сустрэча з высакароднымі рыцарамі і іх чароўнымі дамамі мае адбыцца 3-4 ліпеня ля Радзівілаўскага палаца ў Нясвіжы. Паводле задумы арганізатараў з Міжнароднай сярэднявечнай лігі гэты фестываль абяцае быць адным з самых буйнамаштабных і відовішчных.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

## СЕМІНАР МАЛАДЫХ ЛІТАРАТАРАЎ БЕЛАРУСІ



### Віктар ШНІП (секцыя паэзіі):

"З маіх семінарыстаў мяне найбольш уразіла вучаніца 11 класа з Шаркаўшчыны Надзея Шук. І хоць яе многім творам яшчэ далёка да дасканаласці, але адчуваецца, што паэзія для дзяўчыны — не гульня. Да ўсяго, чытаючы вершы Надзеі, адчуваеш і верыш, што ў нашай літаратуры ёсць будучыня. Арцём Арашонак паказаў сябе, як добры перакладчык з нямецкай мовы. Нярэдка ў яго атрымоўваюцца і трохрадкоўі. Таццяна Барысюк на сваім рахунку мае кнігу вершаў "Аўтапартрэт". Яе новыя творы — гэта яшчэ адзін крок да паэтычнага майстэрства. Алена Шарапа падкупляе сваёй шчырасцю. У яе сваё бачанне свету і свой паэтычны голас. Юры Чарнякевіч — эксперыментатар. І ў яго шмат што атрымоўваецца.

Семінар паказаў, што ў нашу літаратуру ідзе таленавітая моладзь, якая добра валодае роднай мовай, і якой пад сілу ўсе паэтычныя вяршыні. Абавязак старэйшых гэтую моладзь падтрымліваць і даваць ёй магчымасць творча развівацца і расці".

**Ігар КЛЕПІКАЎ**

•

*У павуцінні*
*вуліц безыменных*
*Паменела свабоднае прасторы.*
*Зрывае цені бег гадоў імгненных.*
*Зямля сыходзіць... Застаецца*
*горад.*

*Фантасмагорыя стандартнага*
*бетона.*
*У хвалях нават — стрыжні*
*арматуры.*
*Тут натуральны толькі шэры*
*колер*
*І выгадна "пад нуль" рабіць*
*фрэзуры.*

*Жыцця ранейшага някідкія*
*фрагменты*
*Знікаюць пад тынкоўкаю*
*ды смеццем.*
*Не навучыцца адчуваць сябе*
*цэментам*
*Так хочацца... Каб нават пасля*
*смерці...*

**Арцём АРАШОНАК**

•

*Са старых збаноў*
*На роснае поле*
*Льецца... цішыня.*

•

*У гліне кавалку*
*Ганчар шукае*
*Сваю душу.*

•

*На світанні*
*Ў шэрых валуноў*
*Бачу твары.*

**Юры ЧАРНЯКЕВІЧ**

•

*У халады*
*Глытаць*
*Гарачы чай*
*Пачуццяў —*
*Успамінаў.*
*Магнолія з жасмінам.*

•

*Цвіце каштан.*
*І муха*
*Б'ецца ў шкло.*
*Да лета*
*Тыдні два.*

**Таццяна БАРЫСЮК**

•

*Не сэрца — разбітае шкло,*
*на ім — твае ініцыялы.*
*Мінулае не адышло,*
*а будучае — не настала.*

*Адна... Бо мой кніжны свет*
*ад явы такі далёкі!*
*Расою блішчыць на траве*
*адчай прасвятлёных аблокаў.*

•

*Студзень. Сняжынка*
*на вуснах растала,*
*як пацалунак.*

**Ярына ДАШЫНА**

•

*Мы нечакана застаемся*
*Жывымі ў эпілогах кніжных,*
*прачытанымі пасмяротна*
*у букініста за вуглом.*

*І шчасце выбрацца жывымі*
*з-пад гнёту пераплётаў лішніх,*
*сюжэтных ліній, кульмінацый,*
*з чацвёртага ў пяты том.*
*Вядомы класік прэтэндуе*
*на смерць геройскую героя,*
*на аўтарства твайго маўчання,*
*на выпіць і сябе натхніць.*
*Мы ж нечакана застаемся*
*недапісанаю лухтою,*
*дзе быць героямі абрыдла*
*і проста так абрыдла быць.*

•

*Мы да крыўды з табой*
*няшчырыя:*
*цягнем уніз вышыню.*
*Снег у неба ляціць, бяскрылы*
*ўсцілае зямлю.*

*Мы да крыўды некампрамісныя,*
*мы да крыўды не мы,*
*адзічэлыя і злаўмысныя*
*ў чаканні зімы.*

*А зіма зацягнулася. Сніла я*
*цяжкі грэх...*
*Снег у неба ляцеў, бяскрылы,*
*быццам смех.*

**Алена ШАРАПА**

•

*Гэта не зоркі,*
*а вочы нямой Атландыты...*
*Сумнымі знічкамі*
*льецца сляза за слязой.*
*І пахіснуліся плечы*
*у карыятыдаў,*
*Морам зямля набрыняла,*
*а мора — зямлёй.*
*Нашыя думкі адвечна*
*імкнуцца ў нябёсы*
*І захлынаюцца ў эгаістычнай*
*журбе,*
*З неба ж няспынна*
*сыплюцца зорныя слёзы...*
*Гэта не Бог,*
*а мы забіваем сябе.*

**Марына ЦІМАШЭНКА**

•

*Учапіліся ў неба трамваі*
*Шэрым скруткам даўгіх*
*правадоў,*
*І па-восеньску вальс заігралі*
*Кроплі шэрых бясконцых*
*дажджоў.*

*Выпіваю*
*пяшчоту густую*
*З адзінокага кубка надзей,*
*І на фота усмешку цалую*
*З кожным днём я радзей і радзей.*



**Віктар ПРАЎДЗІН (секцыя прозы):**

"Зноў пераканаўся, што літаратар не можа быць цалкам "самотным пустэльнікам". Без ведання мінулага і сённяшняга жыцця і літаратуры немагчыма стварыць нешта арыгінальнае і вартае ўвагі. Семінар маладых літаратараў яскрава пацвярджэнне таму. Творчы чалавек, асабліва на пачатку сваёй літаратурнай працы, павінен адчуваць запатрабаванасць. Менавіта пра гэта сказаў міністр інфармацыі Міхаіл Падгайны. Ён запэўніў маладых літаратараў, што таленты ніколі не застануцца без падтрымкі дзяржавы. Пісьменнік Леанід Дайнека не толькі расказаў пра свой творчы шлях, але і паабяцаў стаць фундатарам кнігі, якая будзе канкрэтным вынікам сённяшняга форуму.

У семінары бралі ўдзел маладыя празаікі Таццяна Дубоўская, Уладзімір Капаеў, Ігар Пракоф'еў, Дзмітрый Яцук.

Можна з упэўненасцю сказаць, што ў літаратуру ідуць людзі невыпадковыя. Усе яны ўжо друкаваліся ў часопісе "Маладосць", "Бярозка", перыядычным друку. Хвалюе чысціня і праўдзівасць пачуццяў у апавяданнях Таццяны Дубоўскай: "З дзённіка аднаго злачынства", "Пісьмо", надрукаваныя ў часопісе "Маладосць" № 2 за 2003 г.

Дзмітрый Яцук, які не так даўно дэбютаваў у часопісе "Бярозка", на семінары да абмеркавання прапанаваў аповесць "Крыж", і гэты твор быў падтрыманы і ўхвалены Віктарам Гардзеем. А гэта азначае, што ў бліжэйшых нумарах аднаго з часопісаў рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва" чытачы змогуць азнаёміцца з новым творамі Дзмітрыя Яцука.

Ігар Пракоф'еў таксама даслаў на разгляд раман, фантастычныя апавяданні і абразкі, ці мініяцюры, як сам аўтар вызначыў жанр гэтых твораў. Зрэшты, з творчасцю Ігара Пракоф'ева мы пазнаёміліся таксама ў часопісе "Маладосць", а цяпер і новыя творы знойдуць свайго чытача.

Уладзімір Капаеў — празаік са стажам, і лёс ягоных твораў вызначаны загадчыкам аддзела прозы часопіса "Маладосць" Анатолем Казловым: "Будзем друкаваць!"

Напэўна, для ўсіх, і асабліва сённяшніх літаратараў, самае галоўнае — быць надрукаваным, а не стаяць "у чарзе ў літаратуру".



**Ігар ПРАКОФ'ЕЎ**

## ШЧАСЦЕ

Што такое шчасце?

Многія сцвярджаюць, што гэта нешта крохкае, лёгкае, паветранае, яго не ўтопіш бруднымі рукамі...

Але верагодна, ёсць і шчасце брудных рук...

Свіння, пэцкаючыся ў лужыне, адчувае сябе цудоўна.

Вымыйце яе — і яна стане самай няшчаснай істотай на свеце.

Словам, не мае значэнне, што кожны з нас лічыць шчасцем, важна, каб яно было.

Адзін чалавек усё жыццё працуе над тым, каб стварыць перадумовы для ўзнікнення шчасця, але ў яго так і не атрымліваецца дасягнуць жаданай мэты.

А другі, прачнуўшыся ранкам, усміхаецца першым промням сонца і адчуе сябе абсалютна шчаслівым...

Важна цаніць імгненне, важна зразумець і прыняць сваё шчасце.

Ужо тое, што мы жывем на Зямлі, само па сабе цуд.

А калі да гэтага далучыць цікавую працу, дом — поўную чашу, любімае хобі і іншае, то чаго ж яшчэ можна жадаць у жыцці!

## РАМАН

Яна была ружовая, пяшчотная, поўненькая. Убачыўшы яго, запунсавеліся шчочкі.

У цудоўным беласнежным касцюме ён выглядаў надзвычай прывабна.

Грацыёзныя рухі.

Галантныя паклоны.

Ён горача абняў яе і закружыў у танцы.

Яны атрымлівалі асалоду ад узаемнай прыгажосці і свежасці.

Але раптоўна... яна яго запэцкала.

Было няёмка і... абсалютна звычайна.

Ад такога абыходжання ён проста аслупянеў.

Раздаўлены!

Запэцканы!

Прыніжаны!

Менавіта так заканчваюцца ўсе раманы паміж попкамі і падгузкамі.

## ЧАМУЧКА

Ён рос цікаўным, дапытлівым хлопчыкам, і як толькі навучыўся гаварыць, адразу пачаў закідваць бацькоў пытаннямі "дзе?", "калі?", "з кім?", "навошта?", "чаму?"...

Маці клікала яго Малютка-чамучка, а бацька жартаваў: "Табе, Малютка, толькі допыты весці!.."

Дарэмна жартаваў...

Малютка вырас, трапіў на службу і стаў катам Малютай Скуратавым.

## РЭІНКАРНАЦЫЯ

Жора Кармулькін ніколі не верыў у рэінкарнацыю.

А дарэмна!

Праз некаторы час пасля смерці ён раптам зразумеў, што нарадзіўся зноў.

"Вось дык справы!" — здзівіўся Жора і зараз жа вырашыў расказаць усяму прагрэсіўнаму чалавецтву аб жыцці пасля смерці (расхрыць, так бы мовіць, тайны нябыцця, здзейсніць пераварот у навуковай думцы, прыадкрыць заслону таямнічасці).

Але як?!

Ён быў няўклюдным нованароджаным, які зусім не ўмеў гаварыць. Не тое што язык, нават рукі і ногі яшчэ не слухаліся яго.

Нічога не зробіш.

Вырашыў Жора чакаць таго часу, калі навучыцца гаварыць, а пакуль усё як мае быць запомніць і нічога не ўпусціць з вопыту свайго мінулага жыцця.

Яму ўвесь час хацелася спаць.

І ён спаў: салодка, патанаючы ў мяккай пасцельцы, забыўшыся пра ўсё на свеце.

Аднойчы ён прачнуўся, ловячы сябе на думцы, што не помніць ужо не толькі тэарэму Піфагора, але і табліцу памнажэння.

Яму ўвесь час хацелася есці.

Ён не па днях, а па гадзінах прыбаўляў у вазе і нечакана зразумеў, што не памятае ні свайго адраса, ні нумара тэлефона.

Ён кожны дзень пратэставаў супраць сістэматычнага мыцця і спавівання.

Крычаў на ўсю моц свайго маленькага луджанага горла.

Пасля такіх канцэртаў ён пачаў паступова забываць імёны сваіх сяброў, бацькоў і нават уласнай жонкі.

Патніца і колікі ў жываце зусім выбілі з галавы інфармацыю аб узросце, полу, сямейным становішчы і службовай пасадзе.

Усё прайшло, як сон.

З папярэдняга свайго жыцця цяпер Кармулькін памятаў толькі тое, што ўжо жыў, і гэты свет быў яму знаёмы.

За той час, калі Жора вывучыўся гаварыць, ён прыйшоў да высновы, што лепш не мучыць сябе, а канчаткова забыцца на мінулае жыццё і атрымліваць асалоду ад жыцця сённяшняга.

## ХТО КАГО?

Яны скруцілі яго па руках і нагах.

Спачатку сілком лілі ў рот саладкаватую белую вадкасць.

Потым спявалі здзеклівыя песні, якія зневажалі яго годнасць.

Круцілі і падкідвалі угору і траслі нечым бразгатлівым ля самага вуха.

Ён трымаўся з апошніх сіл.

Тады яны вырашылі яго прымусіць спець і пачалі люляць пад нудную санлівую мелодыю.

Але малы Жэнька-жменька не здаваўся і толькі раніцай, канчаткова змардаваўшы бацькоў у няроўных баях, засынаў ціхамірным дзіцячым сном.

## ДАКУМЕНТЫ

— Прапаную лічыць сход адкрытым. Іншыя прапановы будуць? — Пашпарт грозна глянуў у прыціхлую залу.

— А калі мне марку наклеяць? — істэрычна закрычаў Партбілет.

— Спакойна, таварышы, за гэтым і сабраліся, — узнялася сярпаста-малаткастая рука. — Вы ж усе добра ведаеце, што наш, прабачце, уладальнік, ужо даўно не плаціць членскія ўзносы.

— Ганьба! — зароў Партбілет.

— Абуральна! — падхапіў Прафсаюзны Білет.

— А вось мяне ён любіў, — з выклікам заявіў Камсамольскі Білет. — У мяне ва ўсіх графах за ўсе гады заплачана своечасова.

— Як вы смееце яго бараніць? — загарачыліся Вадзіцельскія Правы, выстаўляючы напаказ дзіравы бок. — Бачыце, у якім я стане?!

— А мне! — завішчаў малодшы таварыш, Пасведчанне аб Нараджэнні. — Ён усю вокладку чарніламі заліў.

— З інстытута выперлі, — падаў голас Студэнцкі Білет, — дык гэты прайдзісвет падмаляваў даты і яшчэ два гады на мне ездзіў...

— Смірна! — рыкнуў Ваенны Білет. — Гэты так званы радавы "закасіў" ад войска...

— Іншымі словамі, — рэзюміраваў Пашпарт, — мы ўсе сышліся на меркаванні, што наш уладальнік паводзіць сябе ў адносінах да нас надзвычай няўважліва і груба. Прапаную аб'явіць яму байкот...

Тут скразняк грукнуў дзвярыма і на стол спланіравала Пасведчанне аб Смерці.

— Прабачце за спазненне, але ў мяне прэтэнзій да майго уладальніка няма... бо я яму не належу...

## ВЕЖА

На высокай скале, на беразе паўночнага мора стаяла грозная-баявая вежа з магутнымі сценамі, крутымі лесвіцамі, зыркімі вачамібайніцамі.

Аднойчы да вежы падышоў чалавек, пастаяў трохі, выбіў цагліну і ўклаў на яе месца сваю.

Праз тыдзень да вежы прыйшоў яшчэ адзін чалавек, потым яшчэ і яшчэ.

Усе яны забіралі па цагліне, а ўзамен пакідалі хто камень, хто жменю пяску, хто камяк гліны.

Кожны дзень да вежы прыходзілі людзі, і з кожным днём цэглы ў сценах станавілася ўсё меней і меней.

Прайшлі гады, мінуліся стагоддзі...

Бездапаможныя сцены вежы танчэлі і слабелі.

Нічым не змацаваныя камяні, пясок, гліна і астатняя цэгла больш не трымалі.

Люты вецер і салёныя марскія хвалі (а магчыма, і яшчэ штосьці) скончылі пачатае разбурэнне.

Вежа павалілася.

... У жыцці не столькі важна набыць, колькі не згубіць.

## ЛЁС

Ён заўсёды ведаў, што сваёю смерцю не памрэ.

Яшчэ ў дзяцінстве яму прадказалі, што ён утопіцца.

А заўчасна паміраць вельмі ж не хацелася.

Таму ён з'ехаў у пустыню.

Спачатку ўсё было добра.

Ніякай вады.

Дакладней, вада толькі ў збанах і кубках, цёплая, і гнілая не кожны дзень.

Паўсюль распалены жоўты пясок і спёка...

Шмат гадоў ён пражыў у пустыні.

І ўсё-такі не здолеў ашукаць лёс.

Хто ж ведаў, што можна ўтапіцца, захлынуўшыся ЗЛОСЦЮ.



Фота Кастуся ДРОБАВА

# З ВЕРАЮ Ў ДАБРО

Кніга Міколы Шабовіча "Падары мне сваю адзіноту" (Мінск: "Мастацкая літаратура", 2002), выпучаная на прэмію Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, — не першая ў творчай скарбонцы паэта. Яна падсумоўвае ранейшы жыццёвы вопыт, больш стала і пафіласофску ўважліва ацэньвае страчанае і набытае.

У чатырох раздзелах зборніка пераважае мажорная танальнасць. М.Шабовіч пасвойму пераасэнсоўвае вядомыя вобразы, надаючы ім новыя адценні. Так, слова жураўлі ў ягонай паэзіі мае іншае ўнутранае напаўненне , чым дэфініцыя "пералётная птушка". Вобразы жураўлёў і нябеснай сінечы набываюць кантэкстуальныя значэнні несупыннасці жыцця, у якім лірычны герой М.Шабовіча з удзячнасцю прымае і ўдачы, і паражэнні. Бо ці не ў гэтым сэнс чалавечага пошуку, сэнс руху і развіцця наогул — памыляцца, сталець і пасля, на жаль, а можа, на шчасце, кажучы словамі паэта, ізноў "я ў раз каторы памыліцца рад".

Жураўлямі ў першым раздзеле "Пакуль куе мая зязюля" становяцца тыя шчаслівыя імгненні свету, якія сілкуюць творчую энергетыку. Такія імгненні для звычайнага абывацеля нічога не значаць, а ўражлівай, чуйнай натуры паэта нават апалыя бярозавыя лісты падаюцца "кропелькамі яснаты".

Што ратуе і лечыць Міколу Шабовіча, калі раптоўна "стане сумна, роспачна і горка", калі "золкі вецер блукае па росах, разрываецца ціш машынамі"? Паэзія нашых класікаў — Янкі Купалы і Максіма Танка, гукі роднай мовы, белы ліст паперы, сяброўства, успамін пра Гуцульшчыну ("тут беларусаў любяць"), даверлівае зялёнае дрэўцанемаўлятка, палескі край. Вобразы светлых уражанняў кантэкстуальна сінанімізуюцца, і такі своеасаблівы сінанімічны рад адметны ў кожнага паэта. У раздзеле "Пакуль куе мая зязюля" гэты рад мае слова-дамінанту жураўлі. Аўтарскімі сінонімамі становяцца вобразы вілейскай вёсачкі Шыпкі, дзе Мікола Шабовіч пяць гадоў працаваў настаўнікам, мамы, сыноў. Бацькаўшчыну паэт параўноўвае з востравам:

*Ты — збавенне, мой востраў,*
*Найлепшыя лекі*
*Ці ад суму,*
*ці то ад няспраўджаных слоў.*
*Ты не знаеш, мой востраў,*
*Які ты маленькі*
*Сярод розных*
*Не бачаных мной*
*Астравоў.*

На гэтым востраве ёсць мама, якая "гляне ў вочы пасмаю ссівелай — такая непаўторная краса", ёсць сыны, якіх М. Шабовіч пяшчотна называе малечай і пакідае ім "свой росны ранак, сумны дзень, ласкавы вечар". І толькі на Радзіме паэта так смачна пахне жытні хлеб.

Другі раздзел "Шчымліва нараджаецца жанчына" глыбока прасвечвае ўнутраны стан лірычнага героя — надзвычай эмацыянальнага і трапяткога. Паэт імкнецца да сапраўднага кахання, пазбаўленага матэрыяльных выгод, але не заўсёды знаходзіць яго. Калі ж лёс дорыць чаканую сустрэчу, то гэта ўжо сэрцатрасенне:

*Здарэнне! Здарэнне! Здарэнне!*
*На вуліцы Эннай апоўначы*
*Адбылося сэрцатрасенне:*
*Чагось супадзенне,*
*Чагось разбурэнне поўнасцю...*
*Карэспандэнты прабегалі ранне,*
*Не замаўкала радыё.*
*А гэта ўсяго наступіла каханне*
*Сапраўднае...*

З усяго раздзела, дзе вобразы ў творах часам паўтараюцца, гэты верш падабаецца найбольш. І сэнсавай напоўненасцю, і цікавай моўнай знаходкай. Каханне — гэта ж не толькі "свята сустрэчы, таемнай і блізкай" ці "вясна надзей", а яшчэ і неспакой, які паэт выражае трапнай аўтарскай лексемай сэрцатрасенне. Моўная адзінка з экспрэсіўным адценнем значэння ўдала перадае абвостранасць пачуцця лірычнага героя.

Мікола Шабовіч надзяляе яго рэдкасным для нашага часу жаданнем шчодра тварыць дабро. Асабліва гэта адчуваецца ў раздзеле "Падары мне сваю адзіноту". Лірычны герой прымае чужыя боль, пакуты, сумненні, а ўзамен падчас аказваецца ў палоне... "сцюжнавейнай зімы". Аднак не пераўтвараецца ў абыякавы лядзяш, што чакае веснага промня. Ён выгашае так:

*Пайду адзін па золкіх туманах*
*Туды, дзе срэбрам зімавее восень,*
*Дзе спеў мой ціхі росіцца ў палях*
*І позняй птушкай просіцца ў нябёсы.*

А ў нябёсах М. Шабовіча — летуценні, светлыя і чыстыя. І яшчэ там жыве музыка. Многія вершы паэта сталі вядомымі песнямі, часта гучаць на радыё і тэлебачанні.

Зборнік, несумненна, знойдзе свайго чытача. Такая паэзія не *абцяжарвае* залішняй загадкавасцю вобразаў, пошукам таемнага сэнсу метафар і параўнанняў, нечакана абрывістымі сказамі са шматкроп'ямі. Усё здаецца простым і зразумелым. Аднак што так моцна кранае ў гэтай знешне простай лірычнай споведзі М. Шабовіча? Найперш — шчырасць. А яшчэ — аптымізм: нават туга ці самота ў паэта прасякнуты надзеяй, якая па няўлоўных ніцях вобразаў перадаецца чытачу.

Таццяна СТАРАСЦЕНКА

ПАЭЗІЯ

Мікола МЯТЛІЦКІ



## БУТРЫМ НЯМІРА

*У дубой тугой абложы*
*Над ракі цямотным вірам*
*Грае ў сонцы хорам гожы —*
*Замак дзедаўскі Няміраў.*

*Тут, у збройніцкай святліцы,*
*Шчыт і меч у чыннай згодзе*
*Праз вякі вядуць быліцы*
*Аб Алегавым паходзе.*

*Зброя золатам бліскоча,*
*Адзавецца гулка звонам —*
*Кожны ўчуць нашчадак хоча*
*Пра прапрадзеда Грымона.*

*Ды вітае ўсіх няшчыра*
*Уладальнік тых харомаў*
*Сыч сівы Бутрым Няміра,*
*Хцівец, кожнаму вядомы.*

*Не з тэўтонамі у сечах*
*Скарб набыў, зайздросны воку, —*
*На пакутах чалавечых,*
*Гэтак любых крывасмоку.*

*Ў падхаромныя падрубы*
*Стогн нявольніц захаваны.*
*Хто Бутрыму быў нялюбы,*
*Ў дыбу люта закаваны!*

*Лёг адчай, цяжэйшы хмары,*
*Сум павёў па ўсёй старонцы.*
*Горш за ўсіх жылося Мары —*
*Супастата гожай жонцы.*

*Сцята вусцішшу і горам,*
*Як былінка ў спёку сохне.*
*Ненавісны сэрцу хорам*
*У вушах начамі стогне.*

*Патрабуе муж нялюбы,*
*Каб была навідавоку.*
*Мара ведае: да згубы*
*Засталося менш паўкроку.*

*Пэўна ўчуў паганым духам:*
*Не па ім яна ўздыхае.*
*Мо прыкмеціў ці падслухаў,*
*З кім мілуецца — кахае.*

*Ёй сусед, баярчыц Стаўра,*
*Даражэй за скарбы мужа.*
*Б'юць паходныя літаўры,*
*А яна цвіце, як ружа.*

*Зноў мілуе хлопца шчыра*
*У садку, дзе явар гонкі.*
*Ды не так сабе Няміра*
*Не спускае вока з жонкі.*

*Спрытна высачыў ён сховы.*
*З лютай ярасцю тырана*
*На каханых чыніць ловы —*
*Вось ужо вядуць да пана...*

*— Што ж, баярчыц, ты не весел?*
*Ці віно маё з гаркоты?*
*Паказаў даўно ўжо месяц*
*Пад тым яварам мне — хто ты!*

*Кліч музыкам: — Сыпце жару!*
*Хай сусед спазнае, хто я.*
*Побач здзійленую Мару*
*Ў крэсла садзіць залатое.*

*То зірне на Стаўру хіжа,*
*То на твар красуні юнай.*
*Прамаўляе — гневам пыша:*
*— Э-э-х! Не тыя ў скрыпак струны!*

*Ў сад баярчыца, ў зацішак*
*Валакуць лаўцы разбою.*
*Вось зайгралі струны з кішак.*
*Задаволен князь сабою.*

*Бездыханна вар'яцела*
*Ад таго ігрышча Мара.*
*Непрытомна смягла цела,*
*З рук упала з мёдам чара.*

*Дні мінуўшчыны сказалі*
*Агнявым маланак ззяннем:*
*Не было жахотней балю,*
*Не было самотней грання.*

## НЁМАН І ЛОША

*Круціць Лоша бурапенна*
*У віры тугія хвалі,*
*Аж зайздросныя марэны*
*Плынь усцяж паабступалі.*

*Нёман, плыткі і вясёлы,*
*Не спачыне нат у свята.*
*Мые хваляй сухадолы,*
*З людам цешыцца заўзята:*

*То нясе плыты, віціны,*
*То дае улоў жаданы.*
*Кожны знае — ён адзіны*
*У ляніўку закаханы.*

*А яна — ўздыхае лена*
*І, сваволячы, жартуе:*
*То ў лугах падмочыць сена,*
*Дальш нізоўямі прастуе.*

*Ды нядобрай славы зыкі*
*Дзівака не збілі з тропу:*
*Як, магутны і вялікі,*
*Закахаўся ў недацёпу?!*

*І гуло ў барах вяселле,*
*Грамавітае, як хмара.*
*Прачыналіся з пахмелля*
*І Уса, й Сула, і Шчара...*

*Аж да снежнае парошы —*
*Чуў над плёсам куст лазовы —*
*Як галубіў Нёман Лошу,*
*Як шаптаў уцехі словы!*

*— Мы з табой у ласцы-згодзе*
*Пражывём, шаптун, давеку.*
*Кінь пустое: служыць годзе*
*Дрэву, зверу, чалавеку!*

*Нёман слухаў кпіны тыя —*
*Пахмурнеў. Ў адказ — ні слова.*
*За пагор'і збег крутыя —*
*Абарвалася размова.*

*Лоша выбегла з туману,*
*Не знайшла, дзе коціць воды.*
*Зразумела, што каханы*
*Ў свет падаўся назаўсёды.*

*Па нізоўі дні блукала,*
*Поўня ўночы смутна вісла.*
*Даганяць-шукаць гукала —*
*Не прыйшлі ні Пціч, ні Свіслач.*

*Ўдаль тужліва позірк кіне —*
*Дзе ж ты, Нёман, мой каханы?*
*Да сяброўкі рвецца Выня —*
*Разам точаць груд пясчаны.*

*Уздыхаюць тужна-горка,*
*Роняць плёскат невясёлы.*
*Раптам бачаць: за пагоркам*
*Нёман мкне праз сухадолы.*

*У світання шызай дымцы*
*Птушкі голасна спявалі.*
*Зноў да Нёмана ў абдымкі*
*Лошы кінуліся хвалі.*

*І мілей няма для Лошы,*
*Як маўчун той самавіты:*
*І жаданы, і харошы,*
*І — нястомна працавіты!*

*— Дрэву, птушцы, чалавеку*
*Пасабляць у пары будзем.*
*Пражыву з табой давеку! —*
*Шэпт пакоры чутны людзям.*

*Гучнай славы адгалоскі*
*Шаты гойдаюць лясныя.*
*І абселі густа вёскі*
*Берагі-жвіры рачныя.*

*Перавоз, Марочкі, Лоша,*
*І Рачыца, і Сасноўка.*
*Нёман цешыцца: раскоша!*
*Побач верная сяброўка!*

*Ў згодзе служаць люду чынна,*
*Праўдзяць сціплыя жаданні,*
*У гісторыі айчыннай*
*Пераліты ў паданні.*



# ДАЛІ ЧЫСТЫЯ, ДАЛІ СВЕТЛЫЯ

Міхась ХАМЕЦ



***У 1999-м годзе ў бібліятэцы часопіса "Маладосць" выйшла кніга лірычных мініяцюр журналіста Міхася Хамца "Далі чыстыя, далі светлыя". Кароткія дзённікавыя запісы, шчырыя, на мяжы душэўнай агаленасці занатоўкі выліліся ў хвалюючую споведзь чалавека, неабыякавага да людзей, іх клопату, праблем і адвечнага пошуку адказу на пытанне аб сэнсе жыцця.***

***Новыя абразкі Міхася Хамца, як працяг яго "Даляў...", як пошук дзівоснага і прыгожага свету дабра і любові.***

•

Свежы снег быў белым-белым, і чалавек так захапіўся гэтай незямной чысцінёй і свежасцю, што забыўся: пад покрывам бялюткай прыгажосці хаваецца слізкі лёд... Чалавек паслізнуўся і балюча бразнуўся аб прасціну снегу, які нядаўна так радаваў і чараваў яго. Калі падняўся, з горкай іроніяй прамовіў: "Вось так і ў жыцці, сярод людзей..." Даверышся чалавеку, раскрыешся яму, а потым нечакана і знянацку прыходзіць балючае расчараванне.

•

*У крышталёвай*
*Шэрані*
*Бяроз*
*Сваіх гаспадароў*
*Шпакоўні*
*Успамінаюць.*

•

Ён трымаў у правай руцэ стрэльбу, на левым плячы звісаў прывязаны за лапы заяц-русак.

Ён ішоў напрасткі, па заснежаным полі і, перасёкшы шашу, узабраўся на высокі пагорак.

Я ўбачыў яго ад дарогі на самым вільчыку бялюткага, паўкруглага, як яйка, узгорка і сілуэт чалавека ў зялёнай плямістай вопратцы са стрэльбай і забітым вялікім зайцам, які цяжка звісаў за спіною, падаўся мне нейкім злавесным сімвалам нашага існавання на планеце Зямля.

•

*Як першым снегам*
*Прыцярушаная*
*Сцежка*
*Гонкая бяроза*
*Ляжала*
*На*
*Зямлі.*

•

Хтосьці ляціць у самалёце — блізка бачыць асляпляльны блакіт неба. Нехта сядзіць за рулём аўтамабіля, адмерваючы вёрсты шэрай стужкі-дарогі.

Камусьці сніцца страшны, а можа, вясёлы сон...

Студэнтка схілілася над тоўстым фаліянтам — у яе сесія; маладая настаўніца правярае ладную гару сшыткаў — яе вучні пісалі сачыненне на тэму "Што такое шчасце?", у радзільні гучна закрычала немаўля і ў гэта самае імгненне нехта націснуў на курок аўтамата...

Толькі што б ні рабіў чалавек, — кожны паасобку рухаецца, набліжаецца да той адзнакі, за якой небыццё.

•

Пасля тэлефоннага званка да стрыечнага брата Сашы ў Дзяміды, праступуючы на метро, пасля тралейбусам у сваю Масюкоўшчыну, у мітусні, шуме і таўкатні вялікага горада, я ўяўляў, бачыў сцішанасць і пустэчу роднай вёскі і мяне, як ніколі раней узрушваў і хваляваў кантраст між зямлёй, адкуль пайшоў у свет, і сталіцай, дзе жыву, нешта раблю і дзе, на жаль, чамусьці мала радуюся.

•

Скуголіць, вые, свішча халодны вецер. Шум яго самотны і пранізлівы. Ён то сціхае, то зноў завывае трывожна, гучна і настойліва, быццам просіцца ў хату, да святла і цяпла, каб пагрэцца і адпачыць.

...Я зміяніўся... Я ўжо зусім не той хлопчык, які слухаў на прыпечку гарачай печы панылае завыванне і тужлівы шум зімовага ветру. А ён, вецер, усё той жа, і думкі, і пачуцці ў душы нараджае тыя ж, што ў маленстве: хатняй утульнасці і трывогі за людзей, якія ў дарозе.

•

...Такое ад дачушкі пачуў упершыню. Гаварылі пра тое, што хутка Новы год, пра пачатак трэцяга тысячагоддзя. "Мы памром, — раптам сказала Іра, — а як хацелася б ведаць, што будзе без нас".

•

Ціхая раніца пасля малога начнога дажджу. Супакаенне і радасць. Можа, ад невялічкага клубочка дыму, які я бачу над сваёй хатай.

•

У блакіце неба прамы бялюткі след самалёта — як лыжня на снежным абшары.

•

Радаўніца... А я не паехаў да магілак на Бацькаўшчыне...

...А калі і да мяне ў такі дзень не прыйдуць, не прыедуць?..

•

Сёння, на светла-зялёную Тройцу вельмі жорстка і балюча сварыліся ўжо паважанага веку суседзі.

А яны ж былі маладымі і кахалі адно аднаго.

А колькі радасці і святаў было!

І гора хапіла...

Як жа тады трэба жыць, каб на старасці не захлынуцца ў багне злосці і ліхаты?

•

Якімі дробнымі і нікчэмнымі падаюцца людскія турботы, трывогі, гаворкі і жаданні жанчыне цяжарнай — вялікі Клопат і Трывога сапраўдныя ў ЯЕ.

•

Грукочуць цягнікі і самалёты.

Надакучае няспынны шум аўтамабіляў...

...Шмат ад чалавека шуму.

А падабаюцца тыя, што стварае Прырода:

як грыміць гром,

як бруіць ручаёк і падае дождж...

Ад людзей хіба што адно для душы — шум камбайна на полі жытнёвым.

•

...А вось зараз, вось у гэты момант я... жыву?

Бачу блакіт неба, які спрабуюць схаваць хмары.

Чую гул машын...

Стол, на ім папера, кнігі, газеты...

Я бачу, чую, адчуваю, але чагосьці не стае.

Голасу яе?

Нашага маўчання...

Пасля чаго, здаецца, і пачалося б самае сапраўднае.

•

Ты не чуеш гулу самалёта, а ён ляціць.

І крыніц не чуеш, — а яны бруяцца-вірують нават у сцюжу.

Ты смяешся, а ў гэты самы міг у кагосьці спынілася сэрца...

А калі чалавек кахае?

Ці ведае Яна (Ён), што ў гэтае ж імгненне хтосьці хораша думае аб Ім, пра Яе?

•

*На сконе дня мы сустрэліся:*
*Сонца*
*Пагорак*
*І я.*

Сонца было вясёлым і ружовым. Свежаўзараны пагорак — як спіна вялізнай нерухомай жывёліны. А мяне напалохалі курапаткі.

Сонца будзе свяціць заўжды. А на сконе дня залатым абручом коціцца па вяршыне пагорка, які таксама з году ў год будзе каласіцца збажынай.

Не стане толькі мяне.

Але мне не сумна.

Падумалася: калісьці вось так, па лагчыне, ля спіны мядзведзя-пагорка будуць праходзіць сын, дачка ці ўнучка і іх таксама напалохаюць курапаткі.

•

Сёння-заўтра людзьмі будзе сказана шмат добрых і цёплых слоў-пажаданняў. Дзіўна: мы гаворым шчыра, ад душы, зычым сапраўднага, прыгожага і светлага. Але чаму, я не разумею — чаму? — свет не робіцца лепшым?! А, можа, мы яшчэ жывём і радуемся крыху ў гэтым свеце злосці і крыўды, нястач і гора, і планета Зямля яшчэ трымаецца на сваёй арбіце, можа, толькі таму, што зрэдку, хаця б раз на год мы жадаем блізкім людзям шчасця і лепшай долі.

•

Доўгай, нервовай і цяжкай была гэтая дарога да маёй Масюкоўшчыны: "пробкі" на плошчы Бангалор, на праспекце Пушкіна зрываліся "вусы" тралейбуса, а вадзіцель злосна лаяўся і крычаў, спрачаліся пасажыры, стомленыя і нервовыя.

І адзін толькі хлопчык з пярэдняга сядзення нічога гэтага не бачыў і не чуў. Адкінуўшы галаву, ён хораша солодка спаў. Сядласценькі тонкі носік, трошкі адкрыты роцік... Што снілася малому? Ці добра было ў сне? Гэта Бог абярог малога, стомленага школьнай навукай, ад усяго змрочнага і нядобрага, што панавала ў гарадскім тралейбусе ў гэты вячэрні час.



•

Надвячоркам радавала поўная вясёлка, а раніцай зямля пасівела — яшчэ густая і зялёная лістота, трава, кветкі, бацвінне буракоў, качаны капусты, вокны аўтамабіляў пакрыліся густой халоднай шэранню. На чысцюткім небе — ні хмурынкі, але як толькі зыркія промні сонца асвяціелі ўсю гэтую бялёсую снежнасць інею, пайшоў.... дождж. Яго буйныя кроплі гулка разносіліся па сцішаным наваколлі і было нешта казачна-нерэальнае ва ўсім, што бачылася наўкола: асляпляльнае сонца, крышталёвыя пацеркі-расінкі на лісцях, якія пачалі раставаць, ствараючы светлую мелодыю хараства і радасці жыцця.

•

Пасма валасоў, якая звісала з галавы аблыселага чалавека і гайдалася на ветрыку, мне нагадала нашага пеўня са згубленым, калісьці вялікім і шыкоўным хвастом: ад яго засталося адно доўгае віхлястае пяро.

•

На драўлянай лаўцы пад акном будкі вартаўніка сядзеў худы, добра захмялелы дзядзька. Пытаюся пра тэлефон.

— На замку, — адказвае. — А змена не мая.

— Шкада, — гавару. — Дома будуць хвалявацца... Мне б два слоўцы ўсяго...

Стары ўздымае галаву:

— Па-беларуску шпрэхаеш?

— А што?

— Так, нравіцца мне, калі па-беларуску.

Дзядзька няўпэўнена падымаецца з лаўкі, суне ў глыбокую кішэню руку і дастае ключы:

— Для цябе адчыню. Звані! Гавары, колькі хочаш.

...Вось як паспрыяла мая самая добрая, самая мілая, самая лепшая мова на свеце.

•

Гэта ж колькі чалавек губляе! Магло б і са мной такое здарыцца... Якое шчасце, што прачнуўся разам з сонцам, выглянуў у акно, а там... Заходнюю палову неба закрыла вялізная і груваcтая свінцова-чорная хмара, на ўсходзе прыхарошвалася пасля сну ружовае сонца, а між фарбамі чысціні і радасці пералівалася вясёлка.

•

Я тут, на зямлі, дзе трава, вецер, дрэвы, якія пазнаюць мяне і, здаецца, рады неспадзяванай сустрэчы.

Але ж я з'явіўся выпадкова, у гэты час мне належыць быць у іншым месцы.

Дзіўна... І гэтая буйная чарэшня, густая лістота якой нагадвае вірлівую марскую плынь, і мяккая зялёная трава, і маладая бярозка, — вось так хісталіся б пад ветрам, калі б не прыехаў я?! Ёсць я — няма мяне — плывуць аблокі, гнуцца гонкія бярозы ў высокім гаі, ціха бруіцца крынічны ручаёк...

І тое ж самае, адкуль я выпадкова і шчасліва з'ехаў: тэлефонныя званкі, сустрэчы, за вялікім акном няспынны паток машын...

Усё Плыве — Звініць — Расце — Падае — Свеціцца — Патухае... без цябе.

Для чаго тады ты?

Каб гэта чуць і бачыць, каб любіць і ненавідзець, а яшчэ радавацца і сумаваць. Усё ёсць на зямлі — пакуль ёсць ты.

УРАЖАННЕ

# ЦІ ПРЫВАБІЦЬ ТАКАЯ «ДЗЕСЯТКА»?

**Аўтарская праграма Лілії Хатэнкі "Залатая дзесятка Беларускай оперы" на "Сталічным тэлебачанні, прысвечаная 70-годдзю Вялікага акадэмічнага тэатра Беларусі, выклікае вялікую цікавасць. Ужо прайшло некалькі сюжэтаў і можна рабіць першыя высновы. Дарэчы, аказалася, што маё ўражанне супадае з поглядамі некаторых оперных артыстаў, музыкантаў, з якімі мы абмяркоўвалі тыя перадачы.**

**Адчуванне аднапланавасці: кожны фільм пачынаецца з аднолькавага ракурсу, ёсць і кампазіцыйная аднастайнасць: сціслыя аповеды пра оперу,**



**кампазітара, фрагменты спектакля, кароткія інтэрв'ю і меркаванне ветэрана опернай сцэны. Выбраны не заўсёды цікавыя музычныя моманты, амаль што не расказваецца пра сённяшніх выканаўцаў.**

**Вось, напрыклад, сюжэт пра адну з найпапулярных опер "Севільскі цырульнік" Д. Расіні. Чаму б не пагаварыць пра першых выканаўцаў, не ўспомніць унікальную для СССР Разіну з голасам мецца-сапрана — нашу Святлану Данілюк? Не расказала аўтар і пра таленавітых сённяшніх салістаў, пра цудоўнага Фігара Аляксандра Краснадубскага, якога якраз бачылі і чулі тэлеглядачы. Затое шмат гаварылася пра тое, як Д. Расіні кахаў жанчын. А ў перадачы пра оперу "Багема" Д. Пучыні чамусьці не было ўключана ніводнай арыі. Музыку "адсунула" размова Л. Хатэнкі пра прыгажосць Парыжа...**

**Наогул, думаю, што ў кожнай перадачы пра тую ці іншую оперу абавязкова трэба называць адказнага канцэртмайстра спектакля, дырыжора, галоўнага хормайстра, мастака.**

**Самай няўдалай, на мой погляд, была перадача пра пастаноўку оперы Ж. Бізэ "Кармэн". І зноў-такі шматслоўе вядучай, нейкая самазадаволенасць. Вядома, гэтай операю, можна сказаць, і адкрываўся ў 1933 г. наш тэатр. Але ж сённяшняя яе пастаноўка, думаю, не заслугоўвае ўвагі, падаецца дрэннай і сцэнаграфія: толькі дошкі, дошкі, дошкі... Выкананне салістаў у прапанаваных фрагментах — бясколернае, без душы і сэрца, не вартае ўвагі публікі і тым больш — тэлебачання. Перадача тут ператварылася ў антырэкламу пастаноўкі "Кармэн"...**

**З надзеяй глядзім ТБ, чакаем новых, цікавых перадач пра Беларускі оперны, яго артыстаў, музыкантаў, — перадач якіх варты гэты цудоўны калектыў.**

**Вера КРОЗ**

**НА ЗДЫМКУ: народная артыстка СССР Святлана ДАНІЛЮК — Кармэн.**

МУЗЫКА

***Грамадскасць нашай краіны адзначыла 70-гадовы юбілей Беларускай акадэміі музыкі. Адначасова выкладчыкі і студэнты яе гітарнага класа святкавалі і 25-годдзе свайго "цэха". Гэта добрая нагода прагартаць старонкі гісторыі.***

# СПАДКАЕМЦЫ СЕГОВІІ



П. КАРОТКІ

Адным з піянераў прафесійнай гітарнай адукацыі на Беларусі можна лічыць П. Кароткага (1919—1993), з імем якога звязана адкрыццё ў 1963 г. класа гітары ў адной са сталічных музычных школ (цяпер гэта ДМШ № 2 імя М. Аладава). Ён заўсёды падкрэсліваў, што гітара ў даваенным Мінску карысталася папулярнасцю не толькі сярод аматараў, але і многіх прафесійных музыкантаў. Так, з сярэдзіны 30-х быў вядомы дуэт гітарыста В. Пятровіча ды балалаечніка Д. Захара, стваральніка ансамбля беларускіх народных інструментаў, пазней рэарганізаванага ў Дзяржаўны цымбальны аркестр. Звесткі пра В, Пятровіча знаходзім, напрыклад, у "ЛіМе" ("Да музыкі ставіліся лаяльна" В. Брылон, 2, 06. 2000 г.): "Быў адзін гітарыст.., які са звычайнай гітары рабіў гавайскую. Ён іграў нейкай жалезкай, насунутай на палец, і рабіў нейкія плаваючыя рухі. Гук атрымліваўся, як у гавайскай гітары (старэйшы дыктар Уладзімір Юрэвіч, які працаваў на Беларускім радыё з 30-х гадоў, сцвярджае, што прозвішча таго гітарыста — Пятровіч... Ён часта выступаў на радыё яшчэ да вайны)".

У даваенныя гады па ініцыятыве цымбаліста І. Жыновіча на базе Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі для мінчукоў былі арганізаваныя курсы ігры на народных інструментах. Азнаямленне з гітарай, паводле слоў П. Кароткага, вёў выкладчык І. Менакер. Прыкладна тады ж у кансерваторыі на кафедры тэорыі і гісторыі музыкі працаваў М. Марцінсэн, аўтар брашуры



У. ЗАХАРАЎ

"Некалькі слоў пра гітару", выдадзенай у Маскве ў 1927 г.

З сярэдзіны 30-х П. Кароткі пачынае асвойваць сяміструнную гітару, пазнаёміўшыся з музыкантамі П. Значковым і В. Шымкевічам, якія сталі яго настаўнікамі. Рэпертуар пачаткоўца складалі невялікія п'есы са "Школы" А. Сіхры. Адначасова ён асвойвае балалайку, грае ў струнным аркестры. Веданне балалаечнага рэпертуару ў будучым дазволіла П. Кароткаму супрацоўнічаць з Д. Захарам, замяняць гітарыста В. Пятровіча ў філармянічных канцэртах падчас яго хваробы.

"ЛіМ" № 31 за 1946 г. змясціў нататку без подпісу пра агляд мастацкай самадзейнасці Мінскай вобласці, дзе гаворыцца: "У аглядзе прынялі ўдзел каля 300 чалавек... Сярод выканаўцаўмузыкантаў... журы адзначыла П. Кароткага (гітара)".

Да 1959 г. П. Кароткі працаваў у Белдзяржфілармоніі салістам-інструменталістам на разавых канцэртах. Дзеля пашырэння свайго рэпертуару асвоіў і шасціструнную гітару. У яго праграме побач з творамі гітарыстаўсяміструннікаў (А. Сіхры і М. Высоцкага) з'явіліся п'есы Ф. Тарэгі, І. Альбеніса, Ф. Шуберта, апрацоўкі А. Іванова-Крамскога. У 1954 г. у складзе філарманічнай брыгады гітарыст наведаў Маскву, выступаў разам з іншымі нашымі музыкантамі на Дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры.

Пазней паступіў на завочнае аддзяленне Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі ў клас вядомага ў рэспубліцы музыканта П. Пагоцкага (родны брат цудоўнага педагога, выкладчыка Маладзечанскага музычнага вучылішча К. Пагоцкага). Яшчэ студэнтам П. Кароткі пачаў выкладаць гітару ў музычнай школе. Сярод яго вучняў былі і вядомыя сёння педагогі.

•

Пасля смерці П. Пагоцкага клас гітары ў сталічным вучылішчы ўзначаліў М. Кошалеў (1940—2000), які дагэтуль працаваў выкладчыкам Чэлябінскага інстытута культуры. Арганізатарская дзейнасць, канцэртна-лекцыйныя выступленні М. Кошалева і яго вучняў па БТ выклікалі цікавасць у беларускіх паклоннікаў гітары, спрыялі яе папулярызацыі на Беларусі.

Кошалеўскую актыўнасць у справе прапаганды інструмента пераянялі і вучні. Так, у 1989 г. пры Палацы культуры Мінскага аўтазавода быў створаны клуб гітарыстаў (з 2000 г. — імя М. Кошалева), кіраўніком якога стаў выпускнік вучылішча А. Капянкоў. Па ініцыятыве членаў клуба ў Мінску што-



Я. ГРЫДЗЮШКА

год праводзяцца фестывалі і канцэрты гітарнай музыкі, у якіх удзел прымаюць вядомыя выканаўцы з Англіі, Аўстрыі, Польшчы, Расіі, Украіны, Югаславіі, Чэхіі.

З найбольш таленавітых выхаванцаў М. Кошалева — У. Белышаў, чыя выканальніцкая і педагагічная дзейнасць значна паўплывала на развіццё гітарнага мастацтва ў Беларусі. Яшчэ студэнтам вучылішча ён стаў дыпламантам Рэспубліканскага конкурсу музыкантаў-выканаўцаў (1974), тады ж узяў удзел у V Усесаюзным конкурсе артыстаў эстрады (Масква). На другім туры музыкант выступіў няўдала і, засмучоны, нікога не папярэдзіўшы, паехаў дадому. Хаця, як высветлілася, журы прапусціла яго на трэці тур. Вось што ўспамінаў член журы і на той час загадчык кафедры народных інструментаў БДК М. Солапаў: "Думка членаў журы была амаль аднадушнай — прапусціць Белышава на трэці тур. І разам з тым многія спецыялісты адзначалі наяўнасць яркай індывідуальнасці і адсутнасць сапраўднага прафесіяналізму, гэта значыць школы".

Якую выснову зрабіў М. Солапаў пасля таго конкурсу? Што Беларусь паказала сябе з самага лепшага боку (выхаванцы нашай музычнай ВНУ сталі лаўрэатамі), і мы маглі б мець лаўрэата-гітарыста пры наяўнасці класа гітары ў кансерваторыі. Гэтую думку падтрымаў тагачасны рэктар У. Алоўнікаў, які ў жніўні 1977 г. (паводле вынікаў уступных экзаменаў) падпісаў загад аб залічэнні ў БДК першых абітурыентаў па спецыяльнасці "гітара". У якасці выкладчыка-сумяшчальніка быў запрошаны М. Кошалеў.

І вось праз год у Вялікай зале Белдзяржфілармоніі адбыўся першы сольны канцэрт студэнта БДК У. Белышава. На падзею адгукнуўся прафесар М. Солапаў у часопісе "Музыкальная жизнь": "...Канцэрт сабраў вялікую аўдыторыю — зала, якая змяшчае больш за тысячу чалавек, была перапоўненая. Выступленне У. Белышаў адкрыў "Ме-



І. ШОШЫН

"ланхалічнай гальярдай" Д. Даўленда. У праграму ўвайшлі таксама шэсць лютневых п'ес В. Галілея, вядомае "Бурэ" сі мінор Баха, творы іспанскіх аўтараў. Выканаўца звярнуўся да твораў класікі савецкага гітарнага мастацтва А. Іванова-Крамского і ў "Прэлюдыі" ды "Тарантэле" паказаў высокую эмацыянальную напоўненасць, дакладную рытмічную пульсацыю, добрае пачуццё формы. З асаблівым энтузіязмам слухачы прынялі... варыяцыі на тэму беларускай народнай песні "Зорка Венера" (апрацоўка М. Кошалева)".

З 1980 па 1986 гг. У. Белышаў працаваў у БДК выкладчыкам-сумяшчальнікам, цяпер выкладае ў Мінскім музычным вучылішчы.

•

Адзін з пачынальнікаў выканальніцкай гітарнай школы на Беларусі — Я. Грыдзюшка, старшы выкладчык БАМ, лаўрэат I Рэспубліканскага конкурсу імя І. Жыновіча, аўтар некалькіх аранжыровак для класічнай гітары (найбольш вядомыя з іх — шэсць п'ес з "Полацкага

•

Нашы гітарысты даволі актыўна працуюць над стварэннем нацыянальнага рэпертуару. Так, выпускнік БАМ А. Уласенкаў, які стажыраваўся ў лонданскай "Guildhall School of Music", акрамя сваёй асноўнай спецыяльнасці ў якасці дадатковага прадмета асвойваў кампазіцыю. Вынік — напісанне трынаццаці мініяцюр для гітары сола. У 1996 г. у адной з прыватных мінскіх студый А. Уласенкаў запісаў сольны CD, дзе побач з творамі Ф. Сора, Ф. Тарэгі, І. Альбеніса, Л. Браўэра, Р. Дзіенса, А. П'яцолы прадстаўлены яго "Інтрадукцыя і таката", Варыяцыі на тэму беларускай народнай песні "Ой, рэчанька", "Фантазія" на тэмы папулярных беларускіх танцаў.

А як не адзначыць творчасць выпускніка акадэміі Д. Асімовіча?! Яго гітарная п'еса "Гефсіманскі сад" зробіцца, без сумневу, хрэстаматыйнай.

Словам, рэпертуар узбагачаецца. Дзесяткі гітарыстаў удзельнічаюць у гэтым працэсе. І — што важна — ноты

Я. СКРЫГАН

сшытка", а таксама выканальніцкая рэдакцыя сюіты "Intavolatura" беларускага кампазітара А. Літвіноўскага). Гітарныя асацыяцыі розных гарадоў запрашаюць яго з сольнымі канцэртамі. Мастацтва беларускага музыканта цэняць многія прафесійныя гітарысты. Выхаванцы класа Я. Грыдзюшкі неаднойчы вылучаліся на міжнародных выканальніцкіх конкурсах.

Чытачам "ЛіМа" добра вядомае імя і лаўрэата міжнародных конкурсаў У. Захарава. Ён — выпускнік магістратуры БАМ, вядзе актыўную педагагічную, канцэртную і творчую дзейнасць як выкладчык Гродзенскага музвучылішча, саліст абласной філармоніі. Калі ён сам яшчэ быў студэнтам гэтага вучылішча, дык наведваў гурток кампазіцыі выкладчыка В. Радзіёнава. Пад яго кіраўніцтвам напісаў гітарны цыкл з трынаццаці мініяцюр "Дзіцячы альбом", якому пазней знаны кампазітар Д. Смольскі даў высокую ацэнку. П'есы вызначаюцца лаканічнасцю і выразнасцю, у іх выкарыстаны разнастайныя, часам незвычайныя прыёмы імітацыі ці то гуду самалёта і пошчаку салаўя ("Ранак на вёсцы"), ці то бою курантаў ("Новы год") і нават гудзення бармашыны ("У стаматолага"). Аўтар па-свойму раскрывае палітру тэмбравых і музычна-дэкаратыўных магчымасцей гітары, ствараючы той ці іншы вобраз проста і непасрэдна. А напісаныя У. Захаравым восем апрацовак для гітары і голасу на тэмы духоўных песень звязаныя з ігрой музыканта падчас набажэнства ў каталіцкіх храмах Гродзеншчыны. Некалькі своеадметных кампазіцый аб'яднаныя аўтарам у праграмны інструментальны цыкл "Настальгія па Вялікім Княстве Літоўскім".

Ведаюць У. Захарава і як арганізатара абласнога фестывалю-конкурсу "Пяе над Гароднай гітара", назву якому даў радок яго ж верша:

*Пяе над Гароднай гітара,*
*Люляючы Нёман сівы.*
*Баторыя срэбная фара*
*Маўкліва ўздымае крыжы.*

(Акрамя Мінска і Гродна традыцыйныя фестывалі гітарнай музыкі праводзяцца ў Гомелі, Віцебску і Пінску.)

друкуюцца. У 1985 г. пабачыў свет першы беларускі гітарны зборнік "Разам з гітарай" (складальнікі У. Белышаў і А. Пабярэжны). Потым — "Альбом юнага гітарыста", "Гітара ў ансамблі", першы і другі выпускі зборніка "Беларуская гітарная музыка". Выйшлі "Дзіцячы альбом" (італьянскае музычнае выдавецтва) і "Музыка для гітары" У. Захарава, зборнік гам і арпеджыо для шасціструннай гітары І. Кузьміцкага, два зборнікі І. Шошына (прычым, адзін з іх —у сааўтарстве з югаслаўскім гітарыстам У. Дайчынавічам). Рыхтуецца да выдання зборнік п'ес, апрацовак і пералажэнняў Я. Грыдзюшкі. З 1992 г. гамяльчане журналіст В. Кіеня і гітарыст І. Шошын выдаюць альманах "Рэнесанс гітары", з 2000 г. — часопіс "Беларуская гітара".

За 25 згаданых гадоў у сценах акадэміі падрыхтавана 35 дыпламаваных спецыялістаў у галіне гітарнага мастацтва. Яны працуюць у навучальных і канцэртных установах Беларусі ды за яе межамі. Сярод выпускнікоў і студэнтаў нашага класа лаўрэаты міжнародных конкурсаў Я. Скрыган, Н. Ліпніцкая, Д. Асімовіч, П. Шамшура, Ю. Лонская, дыпламанты Міжнароднага конкурсу ў польскім горадзе Крыніца — Э. Чэкан, П. Трацяк, Я. Данілаў, лаўрэаты Рэспубліканскага конкурсу імя І. Жыновіча — Ф. Волкаў, Б. Трусаў, В. Тарлецкі.

Не так даўно беларускія гітарысты віншавалі з 50-годдзем аднаго з першых выпускнікоў гітарнага класа, выкладчыка Брэсцкага музычнага каледжа імя Р. Шырмы і абласнога філіяла акадэміі музыкі, старшыню мясцовага таварыства гітарыстаў імя І. Гельда А. Русіна. За 28 гадоў працы ў музычных навучальных установах Брэста ён выхаваў больш як трыццаць маладых спецыялістаў, у ліку якіх і гадаванцы БАМ. Сімвалічна, што выпускніца акадэміі піяністка Н. Русіна (дачка гітарыста) працуе канцэртмайстрам нашага класа.

Легендарнаму іспанцу А. Сегавіі належаць словы: "Я ганаруся тым, што дзякуючы майму мастацтву ў большасці кансерваторый і вучылішчаў свету ўведзены клас класічнай гітары". Сказанае пацвярджаецца і на прыкладзе Беларусі, прадстаўнікі якой уносяць своеадметны ўклад у развіццё сусветнай гітарнай культуры.

**Валерый ЖЫВАЛЕЎСКІ,**
**дацэнт Беларускай акадэміі музыкі**

**ГАСЦЁЎНЯ**

***Санкт-Пецярбург мае глыбокія і своеадметныя музычныя традыцыі, бо быў калісьці сталіцай Расійскай імперыі. Тут у канцы 50-х гадоў XIX ст. стварылася суполка кампазітараў, якая ўвайшла ў гісторыю пад назвай "Магутная кучка". Пазней, у 1862 г. па ініцыятыве А. Рубінштэйна была заснавана Пецярбургская кансерваторыя, і першым яе выпускніком стаў П. Чайкоўскі. З 1871 г. клас практычнай кампазіцыі і аркестроўкі вёў М. Рымскі-Корсакаў. Суквецце імёнаў узбагацілася тут і за савецкі час. Кампазіцыю, напрыклад, вёў вучань М. Рымскага-Корсакава — М. Штэйнберг, у якога вучыўся Д. Шастаковіч, а той у сваю чаргу вучыў Б. Цішчанку — сёння народнага артыста Расіі, выдатнага кампазітара сучаснасці.***

***Зусім яшчэ маладая таленавітая падчанка Дзінара Мазітава (імя гэта добра ведаюць чытачы "ЛіМа") паступіла ў Пецярбургскую кансерваторыю ў клас кампазіцыі Барыса Цішчанкі. З погляду музычнага "сваяцтва", пераемнасці Дзінара — "дачка" Цішчанкі, "унучка" Шастаковіча, "прапраўнучка" Рымскага-Корсакава, а той, як вядома, спасцігаў мудрасці кампазіцыі ў Балакірава, кіраўніка "Магутнай кучкі".***

***Вось такая дзіўная генеалогія!***

# ДЗІНАРА Ў ПЕЦЯРБУРГУ

Я ўпэўнены ў тым, што творчасцьператварае свет. Музыка таленавітага мастака дорыць людзям эстэтычную асалоду, хвалюе, кранае іх. З музыкай Дзінары Мазітавай я адпачываю душой. Гэтая дзяўчынка пачала займацца кампазіцыяй у сямігадовым узросце — і вось ужо больш за 10 гадоў ідзе па выбранай дарозе. Яе творчасць не страціла свежасці і яркасці, абуджае ўяўленне слухачоў, радуе іх і захапляе.

Дзінары ўжо 18, у Пецярбургскай кансерваторыі яна вучыцца на двух аддзяленнях: кампазітарскім і фартэпіянным. З поспехам здала першую сесію, прыехала на канікулы ў родны горад Ліду. Там мы і пагутарылі:

**— Што скажаш пра свайго новага педагога па кампазіцыі?**

— Барыс Іванавіч Цішчанка ставіцца да сваіх студэнтаў, як да родных дзяцей. У той жа час ён не "сюсюкаецца" з намі, як з маленькімі. Яго стаўленне да вучняў паважлівае і сур'ёзнае. З Барысам Іванавічам можна спрачацца, ён заўсёды гатоў выслухаць чужое меркаванне. Ён не прымушае перарабляць напісанае, хаця, канечне, дае зразумець, як мог бы прагучаць той ці іншы фрагмент у яго ўласнай інтэрпрэтацыі. Вельмі прыемна, што не вымушае пісаць "паводле заказу". Трэба прытрымлівацца праграмы, але калі ты яе выканаў, то можаш займацца творчасцю і звыш вучэбнага плана. З Барысам Іванавічам надзвычай цікава, таму што ён — чалавек-легенда і часта расказвае пра свае сустрэчы з такімі карыфеямі, як Дзмітрый Шастаковіч і Галіна Устволъская.

Мой выкладчык фартэпіяна Алег Юр'евіч Молаў вядзе ўрок такім чынам, каб за невялікі адрэзак часу падаць ёмісты матэрыял. Часам дэманструе піяністычныя прыёмы ігры, напрыклад, у плане пастаноўкі рук. Звычай ён дае мне магчымасць адвольна распараджацца рэпертуарам, а пры выкананні давярае майму музычнаму чуццю і дазваляе іграць так, як я адчуваю тую ці іншую інтанацыю. Молаў верыць у мяне. Гэта вельмі падбадзёрвае, ды часам бывае сорамна, бо я мала займаюся.

**— Раскажы пра сваіх аднакурснікаў, хто яны і адкуль?**

— На першым курсе нас, кампазітараў, восем чалавек — чатыры дзяўчыны, чатыры хлопцы. Не так даўно залічылі яшчэ аднаго хлопца з Ірана. У сябе на радзіме ён праславіўся, быў зоркай, аднак вырашыў, што прафесійная руская музычная адукацыя яму не зашкодзіць. Тры студэнты масцовыя, пецярбуржцы, астатнія з Бураціі, Алтайскага краю, Ноўгарада і я з Беларусі. Нашу групу, не лічачы Б. Цішчанкі, вучаць такія педагогі па кампазіцыі, як А. Мнацаканян, В. Успенскі, С. Сланімскі, выкладчыкі іншых музычных дысцыплін.

— Дзінара, якія новыя творы з'явіліся ў цябе за гэты час?

— Летам я напісала дзве фартэпіянныя санаты, восенню, ужо ў Пецярбургу, — тры поліфанічныя мініяцюры для фартэпіяна, чатыры п'есы для фартэпіяна, восем прэлюдый для альта з фартэпіяна, восем прэлюдый для флейты з фартэпіяна. У студзені — пяць рамансаў для сапрана на словы Хафіза. Апошнія творы мне пакуль яшчэ падабаюцца! У Лідзе, на канікулах, я скончыла вакальны цыкл на вершы Генрыха Гейнэ.

**— А выступаць табе даводзілася?**

— Аднойчы выканала Прэлюдыю і фугу мі мінор з 1-га тома "Добра тэмпераванага клавіра" Баха і Такату Шумана. Гэта было на канцэрце, прымеркаваным да 40-годдзя Пецярбургскай кансерваторыі, у Зале імя Глазунова. Другі раз у той жа зале здавала залік па фартэпіяна. Як кампазітар прадстаўляла свае творы (рамансы і прэлюдыі) у зале кансерваторыі.

А вось наведваю канцэрты, на жаль, не так часта, як хацелася б. Была на выступленні пецярбургскага піяніста Рыгора Сакалова — вельмі прыемнае ўражанне як ад яго ігры, так і ад твораў, якія ён выконваў. Нечакана патрапіла на канцэрт Яўгена Кісіна. У яго цудоўная тэхніка, праўда, ўсё астатняе мяне не ўразіла. Была ў Марыінскім тэатры на "Пікавай даме", у тэатры-студыі пры музычным вучылішчы імя Мусаргскага на "Кармэн", была на адкрыцці сезона ў Вялікай зале кансерваторыі, дзе Юры Цемірканаў дырыжыраваў Трэцяй сімфоніяй Малера. Запомніўся канцэрт вядомага кампазітара Андрэя Пятрова і аўтарскі вечар кампазітара Уладзіслава Успенскага. Можна прыпомніць яшчэ з дзесятак канцэртаў, дзе мне пашчасціла на сустрэчу з цудоўнай музыкай. З сябрамі мы часцяком шпацыруем па набярэжнай Мойкі, канала Грыбаедава. Уражваюць відарысы Ісакіеўскага і Нікольскага сабораў, а з вакна майго пакоя ў інтэрнаце можна падзівіцца на панараму Фінскага заліва.

**— Ці ўспамінаеш ты пра Беларусь?**

— Вельмі часта і з любоўю думаю пра Рэспубліканскі каледж пры Беларускай акадэміі музыкі, які за чатыры гады навучання там зрабіўся для мяне родным. Усё больш упэўніваюся, што нідзе няма такой адметнай сярэдняй музычнай адукацыі, як ў Мінску. Бязмежна ўдзячная сваім педагогам: У. Кузьменку, Ю. Гільдзюку, А. Сікорскаму, І. Дзяніcавай, В. Густавай. Памятаю ўсіх і жадаю ім ўсялякіх даброт. А ўвогуле, радзіма не забываецца, настальгічныя ўспаміны трывожаць душу.

**Віталь РАДЗІЁНАЎ,**
**старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**

**НА ЗДЫМКУ: народны артыст Расіі Барыс ЦІШЧАНКА са сваёй беларускай вучаніцай Дзінарай МАЗІТАВАЙ.**

ЛІМ-ЧАСАПІС

# ДУША, АДКРЫТАЯ КОЖНАМУ

Генадзя Бардышава добра ведаюць тыя, хто наведваецца на спектаклі тэатра "Зьніч". У гэтым вядомым калектыве, які ўзначальвае Галіна Дзягілева, ён з'яўляецца памочнікам рэжысёра, а значыць, мае дачыненне да ўсіх тых выдатных пастановак, што абуджаюць у гледача пачуццё нацыянальнай свядомасці, прымушаюць лішні раз задумацца над тым, якая багатая ў нас гісторыя і наколькі непаўторная літаратура. Аднак далёка не ўсе з прыхільнікаў "Зьніча" здагадваюцца, што і сам Г. Бардышаў мае да яе дачыненне, бо піша вершы. Але калі на сцэне гучыць беларуская мова, дык ён выказвае свае пачуцці па-руску. Відаць, у немалой ступені на гэта паўплывала адметнасць біяграфіі Г. Бардышава.

Нарадзіўся ў горадзе Гале колішняй Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. У школе марыў аб тэатральнай кар'еры, але сталася так, што скончыў фізічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў навуковым супрацоўнікам на кафедры агульнай фізікі, інжынерам у канструктарскім бюро дакладнага электроннага машынабудавання. Тым самым быў пазбаўлены беларускамоўнага асяродка. Дый дзіцячая газета "Зорька", куды неўзабаве перайшоў, таксама, як вядома, выдаецца па-руску.

Перш чым выдаць першую кнігу паэзіі "Соцветье душ", якая і выклікала жаданне сказаць колькі слоў пра гэтага цікавага аўтара, Г. Бардышаў паспеў надрукавацца ў шэрагу газет і часопісаў, зарэкамендаваўшы сябе ўдумлівым паэтам, які раскрывае неабсяжны свет нашага сучасніка праз каханне, бо менавіта ў гэтым пачуцці, як відаць з вершаў, апублікаваных у кнізе, ён бачыць мажлівасць усебаковага раскрыцця чалавека.

Свайго роду эпіграфам да зборніка вынесены такія радкі-прызнанне Г. Бардышава:

"Считаю, всё, что мы, мужчины, делаем в жизни — мы делаем для женщины, во имя женщины и с помощью женщины.

Жизнь без любви — лишь жалкая тень жизни.

Из всех видов "опьянения" предпочитаю опьянение добротой и любовью.

Из всех свобод — более всего ценю свободу творчества".

Вершы, што трапілі пад адну вокладку, напісаны ў розныя гады, Дарэчы, пад кожным з іх значыцца дата, што само па сабе рэдкі выпадак для маладога аўтара. У шэрагу гэтых твораў і верш, якія з'явіўся тады, калі Г. Бардышаву было толькі дваццаць два гады:

*За тобой я ходил,*
*твое имя твердил,*
*и мгновенья — считал*
*за разлуку.*
*Мне б в глаза заглянуть,*
*зноем губ полыхнуть,*
*чтобы ты — поняла*
*мою муку!..*

Няцяжка заўважыць, што пры знешняй бездакорнасці радка ў вершы свайго амаль няма. Нешта падобнае мог напісаць і іншы аўтар, які ў падобным узросце ці значна пазней перажыў моцнае каханне. Але з цягам часу асэнсаванне пачуцця з пачуццяў пачало набываць у Г. Бардышава менавіта сваё гучанне. Ён паспяхова адмаўляецца ад таго, што, як кажуць, на паверхні, а імкнецца глыбей раскрыць душу лірычнага героя, а тым самым адкрывае і ўласную душу. Усім і кожнаму паасобку. І пры гэтым застаецца па-ранейшаму тым самым юнаком, які ў чымсьці яшчэ безабаронны перад каханнем.

Нельга не пагадзіцца з аўтарам невялікага пасляслоўя "Вполне узнаваемый..." Аленай Туравай: "И если в вас сохранилась способность по-детски искренне воспринимать окружающий мир, вы обязательно услышите этого автора и полюбите его таким, каков он есть в своих стихах: неисправимого романтика, трепетно доверяющего вам свою душу и не ждущего взамен ничего, кроме понимания..."

А можна сказаць яшчэ і так: у Г. Бардышава пастаянна вясновы настрой, а менавіта гэтак — "Весеннее настроение"— і называецца адзін з яго вершаў:

*Удивительным бывает*
*Каждый год приход весны.*
*Долго ждешь его, мечтаешь,*
*но невольно замираешь*
*от нежданной*
*красоты!*

Прыгажосць жа ў прыродзе і каханні, калі яна сапраўдная, аднолькавая і напоўная нерушавасцю. А калі паэт здатны перадаць яе ва ўсёй паўнаце і непаўторнасці, значыць, ён валодае талентам, што і сведчыць сваімі лепшымі вершамі кніга Г. Бардышава "Соцветье душ".

**Алесь Марціновіч**

УРАЖАННЕ

# «И НА ВОСТОК ГЛЯДЕТЬ ИЗ ЗАПАДНОГО КРАЯ»

***Мабыць, прыслухаўшыся да маёй заўвагі пры анонсе папярэдняга нумара, рэдакцыя часопіса "Немига литературная" гэтым разам (№ 4) выдала чыста "беларускі" нумар. Я маю на ўвазе рускамоўных аўтараў нашай краіны.***

**НЕМИГА**
ЛИТЕРАТУРНАЯ

**В номере:**

**Елена Попова**
**Андрей Скоринкин**
**Василий Курлович**
**Татьяна Лейко**
**Валерий Москаленко**
**«Немижка»** (для самых маленьких)

4/2002

*И что теперь жалеть, обломки собирая,*
*И на Восток глядеть*
*из Западного края!*
*Вопрос уже решен: мы умираем здесь.*
*Вот, скажут, был народ, да только*
*вышел весь —*
*Кто дымом из трубы, кто для червей*
*обедом,*
*И только путь души обобранной*
*неведом.*
*Не поздно ли ползти к забытым*
*алтарям?*
*Как в голубом снегу, сияет*
*Русский храм.*
*Прийти — и умереть, шагнув*
*через порог,*
*И воспарить душой, к тому, чье*
*имя — Бог.*

Адразу пра найбольш адметнае, на мой погляд. Класічнае эсэ Міхаіла Шэлехава "Люди и болото", змешчанае чамусьці ў рубрыцы "Публіцыстыка", я раіў бы прачытаць адукаваным і паважаючым сябе грамадзянам Беларусі. На "больш высокіх месцах" рамана Івана Мележа "Людзі на балоце" аўтар спрабуе выстраіць "родавае беларускае дрэва жыцця", у якім прысутнічаюць і чыста суб'ектыўныя, а падчас і палемічныя тэзы і меркаванні, аднак, нельга не прызнаць, што гэтае балючае пытанне нашай нацыянальнай самасці так глыбока бадай, ніхто ў сённяшніх рэаліях не падымаў. Як ні дзіўна, не зважаючы на палярныя грамадска-палітычныя погляды аўтара, нашы з ім філасофскія праекцыі на сучаснае і будучае Айчыны нярэдка супадаюць...

"Страшный роман Мележа — о судьбе народа Беларуси, обреченного на ничтожество отсутствием веры во что-нибудь. Несчастье, болезни, голод, смерть Божьим бичом гонят людей с болота в новую невероятную жизнь. В каком окажутся они котле? Не умея уже жить деревней, Люди Болота отказываются от самих себя и становятся людьми бездомными, людьми Дороги. Они строят гать, но куда?

Гать объединяет всех, но только на время строительства гати. И окажется, что она никуда не привела. Впереди, за сизым туманом, за гнилыми корявыми соснами, — новое болото...

(...) Выйти из болота и угодить в Болото еще более коварное и цепкое — это символика античного Рока. А также античного наказания. Болотным Танталом оказывается в романе Мележа белорусский многострадальный народ."

Абапіраючыся на гістарычную, духоўную і міфалагічную літаратуру, Міхаіл Шэлехаў "выбудоўвае" уласнае разуменне векавечнай "асуджанасці" свайго народа. І ўсё ж прапанаваны ім напрыканцы "паратунак" — прыход "к смирению и вере" — падаецца мне не новым і некалькі прыцягнутым да спрактыкавана схаванай унутры тэксту тонкай ідэалагічнай лініі таленавітага аўтара...

Уражлівым адкрыццём для мяне з'явіліся і вершы Таццяны Лейкі, яна як і вышэй згаданы аўтар, мае блізкія стасункі з беларускай мовай (між іншым, сама народжаная на Урале), перакладаючы многіх нашых паэтаў. "Письма в Россию" называецца яе паэтычны цыкл, змешчаны ў "Немиге". Гэта высокапрафесійныя і глыбока "личностные" вершы, якія ў сваіх падтэкстах як бы працягваюць тую "старазапаветную" лінію прымусовага народнага "сыходу" і яго магчымага "вяртання"... Калі вершы не толькі "кажуцца", але і "адгукаюцца", значыць, яны ад Паэзіі.

*На русском костяке, точнее, на костях*
*Построена страна, что свой*
*спустила стяг.*

Вылучаецца арыгінальным сюжэтам і артыстычным стылем раман "Бремя пыток" (Восхождение Зенты) вядомай пісьменніцы Алены Паповай. Працытую хоць бы весь гэты фрагмент для ахвочай да неардынарнага чытання публікі:

*"Отсюда была хорошо видна вся поляна, хорошо и близко виден Кондыбо-Кондыбайло и пилипут Никодимов в высоком кресле. Лицо своего спутника Зента знала — примелькался и пригляделся, но фамилии она не помнила. Вокруг было много знакомых лиц, однако многих Зента видела впервые.*

*— Здесь только наши, — сказал сосед, поймав ее изучающий взгляд. — Вы понимаете?*

*— Почти догадываюсь.*

*— Только наши. У нас — вертикаль. Вы знаете, что такое вертикаль?*

*— Смутно. Но тоже догадываюсь.*

*— Надо не догадываться, надо знать. Разве у вас не вертикаль? Я думаю, и у вас вертикаль. Кому вы подчиняетесь?*

*— Этот человек далеко.*

*— Неважно. Главное, он есть. Лично я подчиняюсь Малахову. Я — первый зам. Малахова. Все за этим столом подчиняются мне. И за тем, и за тем, и дальше.*

*— Интересно.*

*— Все — за этим столом, кроме вас. Вы из другой системы.*

*— Конечно.*

*— Это надо принимать как факт. Такая реальность.*

*— Я понимаю.*

*Неожиданно лицо первого зама Малахова скривилось и приняло страдальческое выражение.*

*— Боже! — Сказал он, наклонившись к самому ее уху. — как они ужасно играют!*

*— Вы думаете?*

*— Если б я только думал. Я знаю! Задницы у них кондиционные, ну а все остальное можно было найти и получше. У меня — музыкальное образование. Меня чему-то учили. Ну и что? Мое мнение — это мое мнение. Меня никто не спрашивает. Этим занимаются другие. При чем здесь я? Мне подчиняются за этим столом, а не за тем".*

У рубрыцы "Новое имя" з задавальненнем для сябе прачытаў малую прозу Барыса Бяззубава. Ёсць у чалавека самабытны талент.

Зрэшты, вартыя ўвагі і астатнія публікацыі нумара (вершы А.Пакроўскай, В.Маскаленкі, А.Жураўскай; проза В.Курловіча, М.Вяльковіч, А.Сокалава, А.Шкурэнкі; літаратуразнаўчы артыкул Г.Паўлоўскай)... Аднак у рэдакцыйным партфелі, я мяркую, чакаюць сваёй чаргі рукапісы не менш здольных прэтэндэнтаў. Добра, што не забывае рэдакцыя і пра маладых пачынаючых аўтараў (вершы адзінаццацікласніцы В.Лазаравай) і пра сваіх маленькіх чытачоў (чарговую, ужо трэцюю, сваю казку прапануе дзецям Н.Новаш). Таму, у адрозненне ад выдавецкай (наклад у 300 асобнікаў так і не павялічыўся), творчая перспектыва ў рэдакцыі часопіса, безумоўна, ёсць...

І яна, спадзяюся, нашмат лепшая, чым тая, што выяўляецца з "вечерних стихов" Андрэя Скарынкіна — "большой юбилейный вечер" гэтага "выдающегося поэта современности" — (цытую па вялікіх афішах, што віселі на гарадскіх рэкламных тумбах) адбыўся 20 снежня ў вялікай зале Дома літаратара:

*Как пес к родимому порогу*
*Влачится, высунув язык,*
*Так я хочу в последний миг*
*Быть от тебя неподалеку,*
*Где будет бронзовый мой лик*
*Скорбеть по бледному востоку...*
*

*Я монумент себе воздвиг*
*Еще в былом тысячелетье...*
*Пускай и взрослые и дети*
*Ныряют вглубь прозрачных книг*
*И вспоминают о поэте,*
*Как вспоминают про ледник...*

Не забываючы, аднак, пра "Немигу".

**ЛеГал**

*Нарач — возера ледніковага паходжання.

# ПАКАЗАЦЬ ПРАЎДУ

***З новых прац Анатоля Сульянава — кніга "Маршал Жукаў. Слава, забыццё, бяссмерце". Наўрад ці сёння трэба акрэсліваць энцыклапедычнай даведкай імя Маршала Георгія Канстанцінавіча Жукава. Яшчэ блізкія ва ўсенароднай памяці, што рускіх, што беларусаў, падзеі другой сусветнай вайны. Помніць гісторыя Кутузава і Барадзіно і, відавочна, будуць не адно стагоддзе помніць бітву пад Масквой і Сталінградскую бітву. Адпаведна — і ролю ў гэтых сусвета вядомых ваенных аперацыях геніяльнага палкаводца XX стагоддзя.***

У якасці эпіграфа да кнігі Анатоль Сульянаў узяў словы амерыканскага даследчыка Гарысана Салсберы: "Калі гісторыя завершыць свой пакутлівы працэс ацэнкі, тады над усімі астатнімі военачальнікамі зазіхаціць імя гэтага суровага, рашучага чалавека, палкаводца палкаводцаў у вядзенні вайны. У час смяротнай небяспекі Сталін ізноў звярнуўся да Жукава. Сталінград вісеў на валасінцы. Яго лёс і, магчыма, Расіі былі аддадзены ў рукі Жукава. Бітва пад Масквою зрабіла Жукава нацыянальным героем... Ніхто болей не сумняваўся — Расія, маючы на чале сваіх армій Жукава, у выніку раструшчыць Германію..." Пасля перамогі над нямецкім фашызмам прайшло дваццаць пяць гадоў, а колькі падзей адбылося. Ужо можна было ворагамі лічыць колішніх саюзнікаў. І ўсё ж амерыканскі даследчык аддае даніну справядлівасці савецкаму военачальніку. А ў Расіі, на прасторах былога Савецкага Саюза, знаходзяцца "праўдашукальнікі" іншага кшталту: ім усё б абылгаць, перавярнуць, як кажуць, з ног на галаву. Таму і вельмі важна, што Анатоль Сульянаў завострана, з публіцыстычным запалам вызначае яго ролю, месца ў гісторыі рускага і беларускага народаў.

Між іншым, лёс Георгія Канстанцінавіча як сталага камандзіра пачынаўся ў Беларусі. "З сарака трох гадоў армейскай службы, — заўважае Анатоль Сульянаў, — семнаццаць гадоў Жукаў правёў на зямлі беларускай. Тут нараджаўся яго камандзірскі талент. Ён не меў сярэдняй ваеннай адукацыі,і таму Георгій Канстанцінавіч усё жыццё вучыўся, прагна прыслухоўваўся да выступленняў маршала Тухачэўскага, камандармаў Ягорава і Убарэвіча..." Першыя раздзелы "Маршала Жукава" — якраз пра беларускія гады Георгія Канстанцінавіча. Жукаў служыў поруч з выдатнымі, яркімі асобамі: камандзір-камісар 11 кавалерыйскага корпуса Сямён Цімашэнка, камандуючы Беларускай акругай Аляксандр Ягораў, камандзір дывізіі Канстанцін Ракасоўскі, Іеранім Убарэвіч...

Росквіт Жукава як палкаводца — у сталінскім часе. І пісьменнік звяртае ўвагу на паводзіны Георгія Канстанцінавіча, прыводзіць прыклады, калі военачальнік заставаўся прынцыповым і сумленным чалавекам. Сам Жукаў неадноїчы быў на мяжы арышту, нават і тады, калі дасягнуў высокіх вяршыняў, асаблівай, надзвычайнай славы. А. Сульянаў, аддаючы шмат увагі ўзаемаадносінам Жукава і Сталіна, а таксама з Берыяй, Абакумавым, Варашылавым, Булганіным, не выцягвае маршала за межы таго часу, паказвае Георгія Канстанцінавіча чалавекам жывым, з уласцівымі яму памылкамі.

Кніга Анатоля Сульянава— плён працы многіх гадоў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# І ЯКУБ КОЛАС БЛАСЛАВІЎ...

***У маленстве, так сталася, я ведаў пра вёску Найда, мабыць, больш, чым пра сваю родную. А іх жа раздзялялі лясы, балоты — кіламетраў сорак, калі прамаваць. І вось чаму, ведаў...***
***У пачатку вайны фашысты спалілі мае родныя Вятчыны.***
***Старых, жанчын і дзяцей пад дулам аўтаматаў пагналі на ўсход.***
***Выгнаннікаў расквататаравалі па вёсках вакол Жыткавіч.***
***Маю бабулю Ганну Буякевіч і яе сямігадовую дачку, маю будучую матулю, прытулілі найдзянцы — сям'я Голас.***
***Яны іх ратавалі ад голаду і холаду, хоць цяжка было выжываць самім, увогуле, ставіліся да вятчынцаў, як да родных.***
***Ратавалі цэлых тры гады акупацыі — дадому кватарантам вяртацца было забаронена.***
***І праз шмат гадоў пасля вайны родныя сцвярджалі, сцвярджаюць, што ў Найдзе жывуць самыя чулыя, спагадлівыя і найдабрэйшыя людзі на свеце. Яшчэ запомнілася з маленства, як у дзень Перамогі мой дзед Ігнат Адамовіч успамінаў аб Найдзе так:***
***"Найду, хоць і малая вёсачка, праславіла дабрыня.***
***А ўвогуле — многія выхадцы. Але найбольш двое — Васіль Кот і Мікола Гамолка." "Хто гэта?" — пацікавіўся я.***
***У адказ гучала: " Першы — Герой Савецкага Саюза, ён вызначыўся на японскай вайне. Другі — "пісацель".***
***І дадаў: " Добры "пісацель", праўдзіва піша."***
***Запала гэта ў дзіцячую памяць.***

Потым, падросшы, чытаючы Міколу Гамолку, пераканаўся і сам: праўду аб ім казаў дзядуля мой, пісьменны селянін, які газеты і кнігі чытаў. Мне здавалася, што ўсё, што адбываецца ў творах пісьменніка, адбываецца на нашым прылеску, каля нашага Князь-возера... Настолькі блізкія і зразумелыя сюжэты, захапляючыя прыгоды, прырода. А добрыя ўчынкі юных, па гадах тады блізкіх мне герояў—простых дзяўчынак і хлопчыкаў—не маглі не ўразіць дзіцячую душу, не адгукнуцца жаданнем быць падобнымі на іх! Многае значылі для мяне асабіста аповесці пра вайну — " Дзяўчына ішла па вайне", "Лясная крэпасць". Творы не проста захаплялі — уражанне было такое, быццам сам удзельнічаў разам з Нінай Воранавай, або з Цітком Калядой у тых падзеях. Быў такі перыяд у мяне, калі на ўроках пазакласнага чытання са згоды настаўніцы Г.І. Жыткавец чытаў і расказваў аднакласнікам пра чарговую кніжку нашага земляка. Аднак шкада, што не ўсё тады можна было знайсці ў небагатых школьнай і калгаснай бібліятэках. Але, бясспрэчна, тады ў нас у школе аповесці " Лета ў Калінаўцы", " Добры дзень, школа!", фантастычны раман " Шосты акіян" — былі папулярнымі. Сёння разумею: па вялікім рахунку творы гэтыя — самая цудоўная школа выхавання, фарміравання светапогляду. Кніжкі Гамолкі "зачытваліся" да такой ступені, што амаль кожная старонка была падклеена газетнай паперай, а на вокладках цяжка было разабраць, хто яе аўтар. Творы пісьменніка любілі і чыталі і сталыя людзі.

На жаль, не тоё сёння — многае, не да лепшага, змянілася ў грамадстве, у нашым жыцці. З'явіліся іншыя кнігі, камерцыйныя аднадзёнкі, якія нічога не могуць даць душы, і да сапраўднай літаратуры не маюць ніякіх адносін. Сапраўднае, тое, што закранае саму сутнасць чалавека, яго мінулае і будучае, дзе выкарыстаны вялікі жыццёвы матэрыял, што заклікае чалавека быць чалавекам, доўгі час пылілася на бібліятэчнай паліцы. Але ўжо адчувальныя зрухі — людзі пацягнуліся да літаратуры, якая здольна жывіць. Запатрабаваны зараз і творы сына палескай зямлі, майго земляка Міколы Гамолкі, бо менавіта яны здольны навучыць маладое пакаленне сапраўднаму патрыятызму, любові да бацькоўскай зямлі, і галоўнае — яны вучаць думаць і дбаць аб будучыні...

А самога аўтара ўжо дзесяць гадоў, як няма з намі. Напярэдадні свайго 70-годдзя Мікалай Іванавіч казаў калегам і землякам, што збіраецца напісаць вялікі твор пра гады калектывізацыі на Палессі, пра нялёгкае жыццё сялянства ў трыццатыя гады. Увогуле — пра тое, што перажыў сам, чаму быў сведкам. Але на жаль, недасказаўшы таго, што хацеў, пайшоў з жыцця. А яму было што сказаць пра свой час, нават мяркуючы па яго-най біяграфіі.

Будучы паэт і празаік Мікола (Мікалай Іванавіч) Гамолка нарадзіўся ў 1922 годзе ў вёсцы Брынёў Петрыкаўскага раёна. У два гады стаў сіратой—памерла маці. Хлопчыка спачатку даглядалі бабуля і дзядуля па лініі бацькі. Потым бацька прыстаў у прымы да адной удавы з суседняй Найды — вёска была на тэрыторыі Жыткавіцкага раёна. Міколка на ўсё жыццё запомніў, як ехалі "да новай мамы": "падвода, нагружаная сялянскім скарбам, паволі валюхаецца па вузкай і змрочнай дарозе. А вакол лясы, лясы..."

Агрыпіна Фёдараўна, мачаха, аказалася добрай жанчынай. Міколка не адчуваў сябе чужым у яе хаце на ўскрайку вёскі. Да хаты падступаліся векавыя дубы, а "... бярозы паважна пакалыхвалі шатрамі па ўсёй сялібе." Вось як успамінае сваё школьнае дзяцінства пісьменнік:" Добра помню сваю пачатковую школу, дзе навучаў нас, дзяцей, ветлівы і чулы настаўнік Рыгор Мультан. Пазней ён прапаў у засценках ГПУ. Там, у чацвёртым класе, я напісаў сачыненне на вольную тэму, якое настаўніку надта спадабалася, і ён адзначыў,што гэта больш, чым сачыненне, сапраўды мастацкае апавяданне..." І — наступнае — таксама з яго дзяцінства:

У 1934 годзе зноў прыйшло ў нашу хату няшчасце — па паклёпу мясцовых незычліўцаў быў арыштаваны органамі НКУС бацька. Забіралі яго ноччу, пры вобыску распатрашылі ўвесь матчын куфар, абшарылі ўсе закуткі. Аднаму з энкавэдзістаў надта спадабаліся бацькавы новенькія, нядаўна купленыя штаны, і ён іх непрыкметна ўпіхнуў у свой ёмісты партфель.



Мы надта трывожыліся за лёс бацькі. Ён быў чужаком у гэтай вёсцы, некалькі сяльчан непрыхільна адносіліся да яго. Мачаха, Агрыпіна Фёдараўна, кожны тыдзень несла ў Жыткавічы перадачы для бацькі, плакала, гаравала. Зноў ёй як бы наканавана было стаць удавою.

Праўда, усё абышлося шчасліва. Разбор бацькавай справы паказаў,што абвінавачванні яго, як кажуць, былі шыты белымі ніткамі. Праз чатыры месяцы яго адпусцілі, але ён жыць болей у роднай вёсцы не мог, паехаў на заробкі ў Бабруйск, дзе працаваў на дрэваапрацоўчым камбінаце,а потым на гідролізным заводзе. Тым часам я вучыўся ў в. Брынёў, дзе закончыў 5, 6 і 7 класы. Потым бацька забраў мяне ў Бабруйск, дзе я пайшоў у восьмы клас... "

Пісаць вершы будучы пісьменнік пачаў яшчэ ў школе. Першы верш апублікавала газета "Піянер Беларусі", затым ажно два — а гэта ўжо поспех!— бабруйская акружная газета "Камуніст". Амаль у гэты ж час " Чырвоная змена" публікуе верш "Любімаму Кліму". Гэта акрыляе юнака. Ён працягвае дасылаць свае вершы ў абласныя і рэспубліканскія газеты, іх таксама друкуюць. Пачынаючага паэта з Жыткавіч заўважылі, запрасілі ў 1938 годзе на творчы семінар маладых пісьменнікаў, які адбыўся ў Мазыры. Там адзначылі яго вершы, Гамолка пазнаёміўся з пісьменнікам Ус. Краўчанкам і ўдзельнікам семінара І.Мележам, з якімі пасябраваў на ўсё жыццё.

"Захапленне паэзіяй — невыпадковае ў палескага хлопца. Ёсць талент!" — заўважыў і Якуб Колас, якому без ведама аўтара па пошце з рэдакцыі жыткавіцкай райгазеты " Прымежны камунар" даслалі цыкл новых вершаў Міколы Гамолкі. Народны паэт даслаў Гамолку ліст, у якім падтрымаў семнаццацігадовага паэта, але зрабіў шэраг парад і заўваг. Была і добрая бацькоўская парада: не спяшацца, старанна шліфаваць кожны радок паэтычнага твора. "Як выразна і хораша праявіўся шчыры клопат майстра слова аб маладой літаратурнай змене!"—скажа потым з удзячнасцю сталы пісьменнік Мікола Гамолка.

1939 год. Юнак паступае вучыцца на філфак Белдзяржуніверсітэта. Заканчвае першы курс, а з другога яго прызываюць у армію. Трапіў у войскі хімабароны. Прайшоў усю вайну, у 1946 годзе дэмабілізаваўся камандзірам узвода ў званні лейтэнанта. І важкім сшыткам — на цэлую кнігу— добрых вершаў. Іх прывёз у Мінск. У гэтым жа годзе, адрэдагаваныя Максімам Лужаніным, яны пабачылі свет ў першай кнізе " Зварот шчасця", а праз некалькі гадоў выйшаў з друку другі зборнік Міколы Гамолкі "Б'юць куранты".

Адразу пасля дэмабілізацыі Мікола вярнуўся ў Найду да бацькоў. Цяжкае і складанае тут было жыццё, аднаўляўся калгас. Вярнуўся з вайны Герой Савецкага Саюза Васіль Кот, трохі старэйшы за яго, але гэта не перашкодзіла ім пасябраваць. Гамолка ганарыўся такім сяброўствам. Ён нават напісаў аб подзвігу земляка ў абласную газету "Бальшавік Палесся". Неўзабаве В. Кота паклікалі ў райком партыі і прызначылі на адказную пасаду. Праз сем месяцаў падаўся ў Мінск Мікола Гамолка. Там ён уладкоўваецца ў Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, працуе рэдактарам рэдакцыі, што выпускала кнігі для дзяцей. Пад уплывам слынных майстроў слова Янкі Маўра і Алеся Якімовіча, з якімі пашчасціла разам працаваць, у Гамолкі зарадзілася жаданне пісаць прозу, і пры гэтым для дзяцей. Ён спрабуе сябе ў жанры апавядання. Удала. Дзіцячая газета "Зорька" іх друкуе. Праца побач са славутымі пісьменнікамі, іх таварыская падтрымка спрыялі станаўленню маладога празаіка. Неўзабаве Мікола Гамолка "размахнуўся" на аповесць. І яна, "Лета ў Калінаўцы" прынесла аўтару першы сапраўдны поспех. Твор нават выходзіць у маскоўскім "Детгизе" ў перакладзе на рускую мову ў 1956 годзе. Неўзабаве М. Гамолка піша новую аповесць аб школьным жыцці "Добры дзень, школа!". Дае прачытаць Янку Маўру. Класік па-бацькоўску шчыра "прайшоўся" па творы, але ўвогуле дае высокую адзнаку. Гэта акрыляе.

Прыход у літаратуру таленавітага празаіка быў заўважаны — яго запрашаюць як літаратурнага работніка на працу ў "Чырвоную змену", потым — "Літаратуру і мастацтва". За некалькі гадоў Мікола Гамолка асвойвае жанр фантастыкі — піша цікавыя творы пра палёты ў космас савецкіх касманаўтаў. Вядома, тады касманаўтаў рэальных не было — гэта ж былі 1953-54 гады. Дзве аповесці "За вялікую трасу" (апублікавана ў многіх расійскіх газетах) і "Цытадэль неба" (убачыла свет у часопісе "Маладосць") выйшлі ў 1959 годзе як раман "Шосты акіян" асобным выданнем. Адзначым, што многія падзеі новай касмічнай эры, якая пачалася 4 кастрычніка 1957 г., развівалася амаль так, як паказана ў гэтым навукова-фантастычным рамане беларускага пісьменніка.

Аднак да фантастыкі Гамолка больш не вернецца — творцу захапіла ваенная тэма. І гэта заканамерна: былы салдат павінен быў расказаць аб перажытым. Мікола Гамолка піша аповесць "Дзяўчына ішла па вайне", заснаваную на рэальных фактах. Поспех яе ў чытача быў відавочны : маладыя і сталыя людзі былі ўзрушаны лёсам семнаццацігадовай дзяўчыны, якая як і ўсе яе аднагодкі, рыхтавалася да іншага жыцця, спадзявалася на чыстае каханне, рыхтавалася да стваральнай працы, а замест гэтага ёй выпала прайсці суровымі буднямі вайны...

Тэма вайны прысутнічае амаль ва ўсіх сталых творах пісьменніка — аповесцях " Лясная крэпасць", " Сокалы-сакаляты", "Партызанскія сёстры". Захапляльны , цікава распрацаваны сюжэт, прыгодніцка-рамантычная яго аснова як сродак рэальна магчымых абставін, у якіх фарміруецца характар героя — вабіць чытача.

Тым не менш, у М. Гамолкі былі складаныя ўзаемаадносіны з крытыкай. Так атрымлівалася, што амаль кожны яго твор, як толькі выходзіў у друку, адразу ж знаходзіў свайго чытача, а ў рэцэнзентаў — не вельмі зычлівую ацэнку. Выдаўцы Масквы і Кіева друкавалі кнігі нашага пісьменніка, а ў сябе дома... Але радуе, што аб творах майго земляка цёпла адзываліся вядомыя пісьменнікі Васіль Быкаў, Віктар Казько, Уладзімір Дудзінцаў.

Спрабаваў сябе Мікола Гамолка і ў драматургіі — па яго п'есе " Бітва ў космасе" ў 1963 годзе Рэспубліканскі тэатр юнага гледача паставіў спектакль.

З 1967 года Мікалай Іванавіч працаваў адказным сакратаром часопіса " Бярозка", пасля адказным сакратаром камісіі па Дзяржаўных прэміях Савета Міністраў БССР. Ужо будучы на пенсіі з'яўляўся сакратаром камісіі па прыёме ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Створанае Міколам Гамолкам у розных жанрах можна прачытаць у двухтомніку, выдадзеным да яго 60-годдзя. Адзін з апошніх твораў, закончаных пры жыцці — аповесць " Голуб у акне", прысвечаны паказу жыцця старшакласнікаў у перадваенныя гады, аб першым нясмелым каханні і аб подзвігах на вайне. Мікола Гамолка таксама падрыхтаваў зборнік апавяданняў і зборнік вершаў і казак, адрасаваных дзецям.

Да апошніх дзён жыцця Мікалай Іванавіч Гамолка цікавіўся справамі на сваёй малой радзіме, неаднойчы наведваў роднае Палессе. Многія жыхары вёскі Ляхавічы, што на захадзе Жыткавіцкага раёна, ды і суседніх вёсак, што размешчаны побач з Чырвоным возерам, яшчэ дагэтуль помняць , як у 1974 годзе іх вёску наведалі Іван Мележ і Мікола Гамолка, пісьменнікі-сябры. Іван Мележ, як дэпутат Вярхоўнага Савета БССР рабіў справаздачу перад сваімі выбаршчыкамі, а Мікола Гамолка проста хацеў пабыць з землякамі, пагутарыць з імі аб жыцці-быцці, бо яму ўсё было цікава ведаць. Ды і падыхаць родным паветрам і паслухаць чараты легендарнага Чырвонага возера, Князь-возера ( у " Лясной крэпасці" — Буян-возера!)... Мікола Гамолка пісаў і збіраўся пісаць яшчэ пра гэтых людзей і для гэтых людзей. Трэба таксама сказаць, што ён заўсёды з радасцю сустракаў землякоў-палешукоў у Мінску ў сваёй гасціннай кватэры.

Той, хто хоць аднойчы з Міколам Іванавічам Гамолкам сустракаўся, не мог не здзіўляцца разважлівасці і дабрыні, а таксама проста-такі дзіцячай даверлівасці і непасрэднасці гэтага чалавека, нават у сталым узросце. І радасна, што сёння яго творы жывуць, яны запатрабаваны часам, бо вучаць дабрыні, шчырасці, любові да людзей, да Айчыны. А яшчэ радасна мне паведаміць чытачам "ЛіМа", што на малой Радзіме пісьменніка, у Жыткавічах, нядаўна з'явілася вуліца, названая яго імем.

**Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ**
**г. Жыткавічы**

## ЛІМ-ЧАСАПІС

# НА СКРЫЖАВАННІ КУЛЬТУР

Так склалася, што, разважаючы пра гісторыю айчыннай літаратуры, мы звычайна звяртаемся да беларускамоўнай спадчыны роднай культуры. Гаворачы пра станаўленне беларускай літаратуры XIX стагоддзя, немагчыма не ўлічваць пры гэтым дасягненні творцаў, што жылі і працавалі на Беларусі (Я. Баршчэўскі, Я. Чачот, А. Міцкевіч, У. Сыракомля, В. Каратынскі, Т. Зан і інш.), і якіх доўгі час адносілі да польскіх ці польска-беларускіх пісьменнікаў. Іх творчасць складае неад'емную часту беларускай літаратуры. Запэўніцца ў гэтым можна пры знаёмстве з выданнем, што выйшла ў канцы 2002 года ў выдавецтве "Беларуская навука", аўтарам якога з'яўляецца загадчык кафедры беларускай літаратуры ГДУ імя Ф. Скарыны прафесар Іван Штэйнер.

Кніга "Шматмоўная літаратура Беларусі XIX стагоддзя" — гэта яшчэ адна спроба глянуць на іншамоўную спадчыну нашай краіны, па выразе аўтара, "праз прызму асноўных жанраў эпохі рамантызму" (балада, гавэнда, навела, санет і інш.). У манаграфіі літаратурныя творы пісьменнікаў-рамантыкаў XIX стагоддзя прадстаўлены ў промнях іншых славянскіх і еўрапейскіх літаратурных традыцый. Даследчык адлюстроўвае асаблівасці роднай літаратуры дадзенага перыяду, і разам з тым вызначае тое агульнае, што аб'ядноўвае культуры розных народаў. У кнізе (акрамя прадмовы і заключэння) пяць раздзелаў, і кожнаму з іх адводзіцца адпаведная роля ў раскрыцці зместу даследавання.

У першым раздзеле манаграфіі — "Жанр таямнічы і незвычайны" — гаворка ідзе аб загадкавым свеце балады, поўным чалавечых мар і памкненняў. Чытач можа прасачыць гістарычны шлях трансфармацыі вясёлай "Танцавальнай песні" ў філасофскі эпічны твор, трагічныя падзеі якога звычайна завяршаюцца перамогай дабра над злымі сіламі і смерцю, дзе валадарыць магутнае каханне і вернасць, адданасць сябру і ідэалам. Нездарма гісторыю балады называюць паэтычнай гісторыяй народа. Разглядаючы творы Я. Чачота, А. Міцкевіча, Т. Зана, аўтар прыходзіць да высновы, што балада адлюстравала асноўныя прынцыпы рамантызму, выканаўшы пры гэтым велічную задачу — "данесла свету вестку пра зачараваны край Беларусь".

Другі раздзел кнігі — "Гэта ў чалавечай натуры" — прысвечаны рамантычнай прозе XIX стагоддзя. Аналізуючы творы Я. Баршчэўскага, аўтар прасочвае відавочныя міжжанравыя сюжэтныя і вобразна-выяўленчыя сувязі навел і балад пісьменніка. І. Штэйнер адзначае глыбокі філасафізм пісьменніка, творы якога "рыхтавалі глебу для будучай беларускай філасофскай прозы".

У раздзеле "Гавэнда" разглядаецца гэты невялікі эпічны жанр польскай літаратуры эпохі рамантызму. Аўтар манаграфіі аналізуе творы славутых майстроў гэтага жанру — У. Сыракомлі і В. Дуніна-Марцінкевіча. Польскамоўныя гавэнды, якія з'яўляюцца арганічнай часткай беларускай літаратуры XIX стагоддзя, у далейшым аказалі ўплыў на развіццё нацыянальнай вершаванай аповесці, апавядання і ананімных гутарак.

Наступная частка манаграфіі — "Песня" — расказвае пра выдатных творцаў-рамантыкаў А. Рыпінскага, В. Каратынскага, Я. Чачота, дзейнасць каторых паспрыяла зараджэнню беларускай прафесійнай песні, якая дазволіла "вывесці сваю Бацькаўшчыну ў людзі, ...каб у цэлым свеце яе зналі і шанавалі, паважалі як роўную сярод роўных".

Падарожныя нарысы, мемуары, санеты — усё тое, што стваралі пісьменнікі, каб аддаць шчырую даніну радзіме, разглядае аўтар манаграфіі ў апошнім раздзеле пад назвай "Пад край родны з любоўю". Матывы выгнанніцтва, пілігрымства, тугі па радзімай староне вызначаюць асноўную тэматыку твораў Я. Баршчэўскага, А. Міцкевіча, Т. Лады-Заблоцкага, Я. Лучыны — пісьменнікаў, якія захапляліся родным краем і яго незвычайнымі людзьмі, выказвалі свае пачуцці ў мастацкай творчасці. Тым самым яны, па словах аўтара, "паклалі пачатак усхвалення нашай Радзімы ў мастацкім слове".

Такім чынам, багатая і разнастайная ў жанравых адносінах спадчына іншамоўных пісьменнікаў Беларусі XIX стагоддзя дала працяг плённаму развіццю беларускай літаратуры, якая сёння з'яўляецца неад'емнай часткай агульнаеўрапейскай і сусветнай культуры.

Юлія СІРОТКІНА,
вучаніца 11 класа СШ № 59 г. Гомеля

## ДАРОЖНЫЯ НАТАТКІ

# ХАТЫ-ГНЁЗДЫ

***Народны пісьменнік Беларусі Іван Мележ сваю "Палескую хроніку" пачынаў словамі: "Хаты былі на востраве. Востраў гэты, праўда, не кожны прызнаў бы за востраў — аб яго не плёскаліся ні марскія, ні нават азёрныя хвалі. Навокал адно гніла куп'істая дрыгва ды моклі панурыя лясы". Малая радзіма пісьменніка — вёска Глінішчы, якая стала прататыпам Куранёў, і калі мы ехалі на малую радзіму Івана Паўлавіча, то з правага боку — якраз там, дзе жывуць "людзі на балоце", пра якіх так хораша і праўдзіва напісаў ён — курэў дым: гарэла балота.***

Курані, курэла... Вось і скажы цяпер, што геніяльны пісьменнік не напрарочыў нешта, бо ж — Курані і курэць... Гарэць балоты. Людзі пакутуюць. Скардзяцца, што прыкра дыхаць. Чаму ж так? Няўжо не чалавек іх, а яны, балоты, падпарадкоўваюць сабе чалавека? У апошні час плюнулі: не да іх, тут вунь не хапае паліва, каб ураджай убраць, кожны грам на ўліку. Няма як ваду падвозіць на балота — на тое балота, у якога некалі забралі яе, ваду. І махнулі рукой! А самі, відаць, думаюць: ці не помсціць прырода? Мастак і паэт Генадзь Говар, як заўсёды, фантазіруе:

— Там, дзе выгарыць торф, будуць балацянкі. Вады пасля снегу хопіць. Балоты вяртаюцца...

Дырэктар Хойніцкага лясгаса Уладзімір Мікітавіч Луцко і інжынер па тэхніцы бяспекі, былы галоўны ляснічы, ветэран працы Іван Яфімавіч Домненка, з якімі мы разам едзем у Глінішчы, добрым словам успамінаюць Уладзіміра Пятровіча Юрцэвіча. Гэта ён заклаў дубовы гай, якому сёння пад сорак год. Гэта ён будаваў тую хату, у якой сёння мемарыяльны музей народнага пісьменніка Івана Мележа. Тады гэтае адказнае заданне партыя даручыла леснікам. Музей адчынілі ў 1983 годзе.

Перасякаем раку Віць — прыток Прыпяці. Такую ж назву мае і вёска. "Віць" — гэта нешта ад ластавак. Віць — і гнёзды ўюць. Так і чалавек: ці ў лесе ён працуе, ці на зямлі, а гнёзды сабе выштукоўвае. З лесу ў асноўным. І цудоўныя гнёзды, прама скажам: вачэй не адвесці. Хоць і забруджаная радыенуклідамі зона, а людзі будуюцца, трывала асядаюць тут. Уладзімір Мікітавіч, а чалавек ён, як падалося, памяркоўны, разважлівы, уздыхае:

— Каб такія хаты пасля вайны людзям было па сродках будаваць — ніхто б з моладзі не ўцякаў... Жылі б вёскі. Жылі б!

Яго падтрымаў Іван Яфімавіч:

— А то давалі пяць кубаметраў лесу— і будуйся, чалавек, як хочаш.

А тым часам на гарызонце паказваюцца акуратныя і прыгожыя дамы, што выраслі ў апошні час паабапал дарогі, якая адгаліноўваецца ад шашы, што мкне на Мазыр, і быццам вітаючы іх і зямлю, якая падаравала свету генія, неўзабаве спыняемся каля музея І. Мележа. Сонечна і свежа ў Глінішчах. Бязлюддзе. Здагадваемся: час цяпер такі, што шмат клопату для людзей у полі. Але там-сям усё ж чалавека можна ўбачыць. Працуе і гандлёвая палатка — хутчэй за ўсё, прыватніка. Аблюбаваў ён сабе месца паблізу ад музея. Гандляру ж сумна аднаму... Няма часу і нам падыходзіць да яго, каб перакінуцца словам-другім, паглядзець, што прапаноўвае ён мясцоваму люду. З'яўляецца дырэктар музея Юлія Яфімаўна Кудрыцкая, і мы пераступаем парог хаты, у якой пануе своеасаблівы дух пісьменніцкіх пакут і радасцяў, дзе пад шклом на здымках і вокладках ажываюць героі мележаўскіх раманаў. Ды і сам ён, Іван Паўлавіч, дзівіцца на нас, акідвае моўчкі задумлівым позіркам.

Фатаграфуемся каля помніка пісьменніку. На памяць. Помнік — праца гомельскага скульптара Дзмітрыя Папова, таго самага, што зрабіў помнік і Андрэю Макаёнку, які стаіць у Старых Журавічах Рагачоўскага раёна. Мы з Г. Говарам таксама былі летась каля яго. А потым падзівіліся чысціні і прыгажосці, якая створана рукамі Ю. Кудрыцкай на падворку. Мора кветак. Тлумачыць, што лета было сухое, таму не выпускала з рук вядра — палівала ўвесь час, а за вадой хадзіць не трэба было: дзякуй леснікам, яны і калодзеж добры зрабілі. Вада глыбінная, халодная.

Дзякуем Юліі Яфімаўне за гасціннасць.

Наперадзе — яшчэ адна сустрэча з малой радзімай не менш вядомага пісьменніка-земляка, які ў сваёй творчасці шмат пісаў пра лес. Ды і як было не рабіць яму, Барысу Сачанку, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі і Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа, гэта, калі і нарадзіўся ён у вёсцы, якая так і называецца: Вялікі Бор. А свой значны літаратурны твор, раман у трох кнігах, назваў "Вялікі Лес". "На Палессі, у паўднёвай яго частцы, прыкладна на роўнай адлегласці ад гарадоў — Мазыра, Рэчыцы, Лоева, Брагіна — і рэчак — Прыпяці і Дняпра сярод старых дрымуча-непраходных лясоў і неаглядных багністых балот, на вялікім пясчаным востраве стаіць палеская вёска — Вялікі Бор. Вялікі Бор — казка майго дзяцінства, першая радасць, першы смутак і боль", — піша ў



сваіх "Аўтабіяграфічных нататках" Барыс Сачанка.

Якая ты, калыска Барыса Іванавіча? Ці ёсць сёння той пясчаны востраў? Востраў, магчыма, існуе, а вось наконт балот і дрымуча-непраходных... тут ужо час перагнуў некалі напісанае. Бо багністыя балоты не гарэлі б.

І пакуль едзем, захапляемся хараством зямлі палескай. Лясныя тут мясціны. Скарыстоўваем, наколькі гэта магчыма, час, каб бліжэй пазнаёміцца, пагаварыць-паразважаць пра жыццё, пра справы лясныя. У блакноце з'яўляюцца ўсё новыя і новыя запісы... Нешта бачылі на свае вочы, нешта пачулі, і ствараецца ўражанне, што тут, на хойніцкай зямлі, шчодра адоранай пісьменніцкімі талентамі, хапае талентаў і на лясной ніве.

Складаючы маршрут нашай вандроўкі, дырэктар лясгаса У. Луцко прапанаваў праведаць сасну, якую мы, дабіраючыся да Хойнікаў рэйсавым аўтобусам, прамінулі. А не павінны былі б. Яна якраз і сустракалася нам па дарозе. Пра гэта мы даведаліся пазней, калі вярнуліся да яе. Сасна абгароджана, яна, як пазначана на шыльдачцы, з'яўляецца помнікам прыроды мясцовага значэння. Каралева — так велічаюць людзі гэтае дрэва. Сасна і сапраўды прыгожая, стромкая і роўная, амаль без сукоў, а ўпрыгожвае яе вершаліна — зялёная акуратная шапка. А побач паставіць іх — гулівер і карлік.

— Каля сасны часта спыняюцца маладажоны, фатаграфуюцца, — сказаў Уладзімір Мікітавіч. — Моладзь заўсёды цягне да прыгожага. А сасна такой і з'яўляецца. Ці не праўда?

Тут жа, побач з сасной, на шыльдзе змешчана інфармацыя для грыбнікоў — у якім квартале можна збіраць грыбы, дзе не, але ўсё роўна неабходна звяртацца ў лабараторыю: пра сваё здароўе трэба клапаціцца кожнаму чалавеку самому. Знаёмячыся з гэтай інфармацыяй, успомнілася, як дырэктар лясгаса заўважыў, што з лесам, які забруджаны звыш 15 кюры, яны нічога не робяць: непрыгодны. І ўвогуле, перш чым падняць, вобразна кажучы, сякеру, дабро на гэта таксама дае лабараторыя.

Іван Яфімавіч Домненка расказаў анекдот. Знялі з пасады ляснічага. Вестка пра гэта разнеслася хутка. Прыходзіць ён да сваёй палюбоўніцы, ляпае ў шыбу. Тая пытае: "Хто?" — "Ляснічы". — "Ты больш не ляснічы". І не адчыніла дзверы...

Анекдот прыйшоўся да месца, таму што і ён быў пра лясны асяродак. А пра лес і тых, хто робіць у ім, мноства баек ходзіць у кожным лясніцтве. Стараемся і мы вывуджваць іх. Зрэдку ўдаецца. Адгукнуўся і Домненка. Не адразу, пазней траха, калі бліжэй нас пазнаў, пасмялеў і зразумеў, што нам можна даверыць і яшчэ тое-сёе пра лес і пра сябе.

З аповеду І. Домненкі:

— Ну, што сказаць пра сябе? Усё жыццё ў лесе. І доўгае жыццё — нарадзіўся ж у канцы дваццатых. Скончыў Будакашалёўскі тэхнікум — па тым часе ён быў нашай акадэміяй. Працаваў у Іванавай Слабадзе, гэта Лельчыцкі лясгас, памочнікам ляснічага, ляснічым у Рагачоўскім лясніцтве былога Тураўскага лясгаса. Там жа сустрэўся з будучай жонкай, сама яна руская, з Варонежская вобласці, працавала ляснічым у Букчанскім лясніцтве. У пяцідзесятым пабраліся шлюбам. Таццяна Мікалаеўна — так завуць жонку. Сын Сяргей у свой час закончыў Беларускі універсітэт транспарту, сёння побач — робіць інжынерам па ахове працы. Але ж я забег наперад. Адразу ж пасля вяселля мяне прызвалі ў армію. Скончыў вайсковае інжынернае вучылішча, служыў афіцэрам да 1957 года. Помніце хрушчоўскае скарачэнне арміі? Трапіў і я пад яго. А служыў у Запарожжы. Пасля звальнення вярнуўся ў родныя мясціны. Працаваў начальнікам цэха, інжынерам па пераапрацоўцы, старшым інжынерам па пераапрацоўцы і рэалізацыі... Да 1988 года быў галоўным ляснічым. І ўжо шмат год, як на пенсіі, але дома сядзець, склаўшы рукі, не магу. Тым больш просяць з лясгаса: дапамажы, Яфімавіч, адпачыць паспееш. Дапамагаю, як магу. Вопыт, канечне, ёсць, і трэба перадаваць яго маладым. Хочаце, яшчэ анекдот раскажу?

Іван Яфімавіч бае чарговы анекдот, мы слухаем і заўважаем, што Домненка, усміхаючыся разам з усімі, маладзее тварам. Прызнаўся неяк: "Стаміўся". Але прызнаўся амаль паўшэптам — відаць, каб Луцко не пачуў: абяцаў таму, што яшчэ папрацуе...

У размове з намі Домненка не без гонару заўважыў, што працаваў разам з сённяшнім генеральным дырэктарам Гомельскага ВЛГА Міхаілам Пятровічам Супруном.

— Дай Бог памяць, дырэктарства Супрун прыняў у 1984 годзе ад Юрцэвіча. Пяць год працаваў. А тады пераехаў у Старобін, а замест яго як стаў Уладзімір Мікітавіч Луцко, так і кіруе. На раённай Дошцы гонару не бачылі наш лясгас? Красуецца. Будзеце міма праходзіць, звярніце ўвагу.

Паабяцалі звярнуць. Але спярша заедзем у Вялікі Бор. Перад домам, у якім жыве Эма Кузьменка, загадчыца вясковай бібліятэкі, спыняемся. Каля хлеўчука — дзівосы прыроды! — заўважаем яблыньку, якая цвіце белым кіпенем. На двары ж 27 жніўня. Там-сям асыпаецца долу барвянае лісце. Усе капаюць бульбу. І тут такое!..

Высвятляецца, што муж Эмы Дзмітрый працуе... леснікoм. І мы ўсе дружнай стайкай накіроўваемся у сельскі Дом культуры, на другім паверсе якога створаны музей пісьменніка Барыса Сачанкі. Экспанатаў тут пакуль няшмат, але і для пачатку някепска. Багата кніг, фотаздымкаў, аформлены стэнды, што расказваюць пра радавод Сачанкаў. На адкрыцці музея прысутнічалі пісьменнікі з Мінска: дачка Святлана Явар, пляменнік Барыс Пятровіч, Ала Канапелька, брат Алесь Іванавіч, галоўны рэдактар часопіса "Пралеска", родныя Барыса Іванавіча.

Пакідаем у кнізе водгукаў свой запіс — адзін на ўсіх. Прызналіся, што былі прыемна здзіўлены ўбачаным. Памяць пра такіх людзей, як летапісец роднага краю Б. Сачанка, павінна жыць у вяках, бо ў вяках будуць жыць і створаныя ягоным талентам героі — у тым ліку і ў рамане "Вялікі Лес".

Але з Вялікім Борам не развітваемся. Тут нарадзіўся і яшчэ адзін Барыс Сачанка, больш вядомы як Барыс Пятровіч. У Барыса Пятровіча бацька — Пятро Іванавіч. Цяпер, спадзяюся, разабраліся, што да чаго. Канечне, два прозвішчы з адным і тым жа імем у літаратуры — блытаніны хопіць, таму Барыс Сачанка-малодшы стаў Пятровічам. Паколькі мы з ім падтрымліваем сувязь, тэлефануем іншы раз, то, даведаўшыся пра намер пабываць у Вялікім Боры, Б. Пятровіч падказаў, што ў канцы гарода Сачанкаў стаіць дуб, пасаджаны некалі маленькім Барысам, будучым пісьменнікам. Гэта ж, палічыў тады я, таксама помнік прыроды. А ў канцы гарода... два дубы. Які з іх Сачанкаў? Адказаць на гэтае пытанне лепей за іншых мог толькі брат Барыса Іванавіча і бацька Барыса Пятровіча. Яго мы напаткалі каля сваёй хаты. Невысокага росту, сухі і смуглявы, Пятро Іванавіч сустрэў нас прыветнай лагоднай усмешкай. Парукаліся. Прадставіліся. Рашылі, перш чым паехаць, дачакацца Марыю Пятроўну, маці Барыса Пятровіча: яна вось-вось павінна вярнуцца ад крамы на колах, якая прывезла з Рэчыцы хлеб. А потым і ёй паведамілі, чаму і як мы тут апынуліся. Перш чым ехаць да дуба, Пётр Іванавіч запрашае за стол — перакусіць з дарогі, але мы адмаўляемся, спасылаючыся на занятасць. Можа, і дарэмна? Можа, і трэба было ўважыць старога чалавека і бацьку пісьменніка? Мне чамусьці прыгадалася, што да маіх бацькоў раней заглядвалі раённыя газетчыкі, і тыя потым мне хваліліся, што не абмінулі іх хату такія паважаныя людзі, дзякуючы, Васіль, табе... І вочы маіх старых бацькоў свяціліся радасцю. Але як бы ні было — мы каля дуба.

— Вось гэты, — паказвае Пётр Іванавіч на дрэва.

Зноў — каторы ўжо раз сёння — фатаграфуемся на памяць. З аднаго боку мы з Генадзем, з другога — бацькі Барыса Пятровіча, а ў браме, вакол якой мы і стаім, якраз пасярод, крыху наводдалі дуб з густой чупрынай. Пстрыкнуў "Зенітам" Уладзімір Луцко. А потым мы хадзілі па двары, заглядвалі ў вокны хаты, у якой прайшлі маленства і дзіцячыя гады не толькі Барыса Сачанкі, але і ўсіх яго братоў. Сямёра хлопцаў выпырхнулі з гэтага гнязда, якое сёння апусцела, а гняздо — некалі, адчуваецца, моцнае і трывалае — развальваецца. Пайшлі ў апошнюю дарогу яго жыхары і, здаецца, забралі з сабой усю яго цеплыню,энергетыку... і чахне, гіне дабротная хата, павыбіваны шыбы ў вокнах, разбураецца патроху печ-"грубка". Пятро Іванавіч быццам апраўдваецца: "Наглядаю, але ж... гэта каб побач жыў. Я ж на другой вуліцы — не ўпільнуеш". Ды што казаць, шаноўны Пятро Іванавіч. Сваё сумленне іншым не аддасі — згубяць усё роўна. Ну маглі ж землякі (музей жа зрабілі, пакажыце ім!) напомніць хоць, што гэтая хата своеасаблівая, ёй, можа, роўных няма ва ўсёй Беларусі. Бо некалі ж праз яе парог пераступалі і глядзелі на белы свет у тыя ж самыя шыбы, сядзелі за сталом, радаваліся і пакутавалі слынны пісьменнік Барыс Сачанка, доктар навук, прафесар Іван Сачанка, рэдактар часопіса Алесь Сачанка, бацька пісьменніка Пятро Сачанка. Хоць бы гэта, можа, пра што-небудзь сказала ім, вясковым нехрысцям!

Бацька Б. Пятровіча прасіў перадаць сыну, калі ўбачым ці будзем перамаўляцца па тэлефоне, што на адным гародчыку бульбу выкапаў — 30 мяхоў накапаў, а на другім (той большы) пакуль расправіўся з бульбоўнікам.

Вясковы клопат вясковага чалавека. А пра ягоную бацькоўскую хату мы больш не гаварылі. Што гаварыць пра яе, калі яна і так стаіць перад вачамі — уся як ёсць... Нябожчык пад блакітным жнівеньскім небам.

У вёсцы Іскань, да слова сказаць, што у Быхаўскім раёне, такі ж лёс напаткаў і нашу хату... Не стала мамы — не стала хаты...

Хойніцкія лясы вельмі пацярпелі ад радыяцыі. І пры ўсім тым трэба знаходзіць чыстую драўніну, каб зарабляць грошы, вырошчваць новую, не забываючы і пра забруджаную. Многія людзі перасяліліся ў іншыя месцы краіны. Не ўсе прыжыліся. Вяртаюцца назад. Хат хапае. Сваіх і чужых.

— Ды што казаць! — уздыхае І. Домненка. — Мой дзед Дзям'ян Сцяпанавіч заможна жыў, а калі пачалі аб'ядноўвацца ў калектыўныя гаспадаркі, то ён здаў туды жыўнасць — каня, карову... І кожнага разу, калі гналі каня ў стайню і карову ў хлеў з пашы, яны прыходзілі да дзедавага двара: прасіліся, каб той пусціў дамоў... А ў старога на вачах заўсёды блішчэлі слёзы.

У сваю хату не трэба пытаць дазволу заходзіць. А ў чужую? Відаць, гледзячы з чым туды прыходзіш...

**Васіль ТКАЧОЎ**

*НА ЗДЫМКУ: перад дубам Барыса Сачанкі — бацькі Барыса ПЯТРОВІЧА, Васіль ТКАЧОЎ і Генадзь ГОВАР.*

*ЛіМ-ФОТА*



*НА ЗДЫМКУ:скульптар Іван МІСКО і спявачка Іна АФАНАСЬЕВА на фоне двойчы Героя.*

**Фота Алы ТКАЧЭНКІ**

**АРХІЎ**

# «АСВЕТА ЗРАБІЛАСЯ СПРАВАЙ ЖЫЦЦЯ...»

**Так казала намеснік наркама асветы Беларусі ў 1920—1921 гадах Марыя ФРУМКІНА.**

Вядома, што першым наркамам асветы Савецкай Беларусі быў А. Чарвякоў, а з сакавіка 1921 года на гэтай пасадзе працаваў У. Ігнатоўскі. Але цікавіць пытанне: "Хто ж займаў гэту пасаду пасля Чарвякова і перад Ігнатоўскім?" Пасля таго, як А. Чарвякоў стаў старшынёй ЦВК і СНК ССРБ, абавязкі наркама асветы былі ўскладзены на У. Ігнатоўскага. Але яго ў той час не было ў Беларусі. Уся праца па стварэнні наркамата асветы легла на плечы яго намеснікаў — Язэпа Каранеўскага і Марыі Фрумкінай. Апошняя фактычна выконвала абавязкі наркама асветы да сакавіка 1921 года — амаль паўгода. Імя Марыі Фрумкінай, як і яе партыйны псеўданім "Эстэр", амаль невядомы ў нашай рэспубліцы. Яна нарадзілася ў 1880 годзе ў Мінску.

Марыя паступіла ў Мінскую жаночую марыінскую гімназію, пасля сканчэння якой вучылася на Бястужаўскіх вышэйшых жаночых курсах у Пецярбургу, а таксама слухала лекцыйныя курсы ў Берлінскім універсітэце.

З 1896 года 16-гадовая дзяўчына ўдзельнічае ў рабоце сацыял-дэмакратычных гурткоў Мінска. Фрумкіна неаднаразова арыштоўвалася і высылалася ў Архангельскую, Палтаўскую, Астраханскую і іншыя губерні.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі яна вярнулася ў Мінск і стала адным з лідэраў меншавіцкага крыла Бунда, працавала ў Бюро ЦК Бунда, рэдактарам яго цэнтральнага органа — газеты "Дар векер" ("Будзільнік"), выбіралася членам Мінскай гарадской думы. У 1919 годзе Марыя Фрумкіна становіцца адным з лідэраў левага крыла Бунда. Яна была членам (дэпутатам) Мінскага і Гомельскага саветаў, членам ЦВК Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. З красавіка 1920 года Фрумкіна — член ЦК і адзін з лідэраў Камбунда, а ў 1921 годзе разам з іншымі членамі Камбунда ўступіла ў шэрагі РКП(б).

У сувязі з пачаткам вызвалення Мінскай губерні ад польскіх войскаў 9 ліпеня 1920 года быў зноў створаны Мінскі губерanскі ВРК. Яго ўзначаліў А. Чарвякоў. Аддзелам народнай асветы ў РВК кіравала Фрумкіна.

У адпаведнасці з Дэкларацыяй аб абвяшчэнні незалежнасці Беларускай ССР ад 31 ліпеня 1920 года ў Мінску быў утвораны Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Беларускай ССР (ВРК БССР). Ён меў камісарыяты: ваенны, унутраных спраў, земляробства, асветы і іншыя. Фрумкіна стала самым актыўным працаўніком Камісарыяту асветы ВРК БССР. Яна вяла ўлік непісьменных, адкрывала пункты па ліквідацыі непісьменнасці (лікпункты), школы пісьменнасці, гурткі, хаты-чытальні і г.д. У Мінску ў другой палове 1920 года былі адчынены школы пісьменнасці пры вайсковых гарнізонах. Толькі ў сямі такіх школах навучалася больш за 350 чалавек.

Менавіта Фрумкіна была адным з ініцыятараў прыняцця пастановы ЦБ кампартыі Беларусі ад 11 верасня 1920 года аб плане ліквідацыі непісьменнасці.

З заснаваннем у снежні 1920 года Наркамасветы БССР у яго складзе была ўтворана камісія па ліквідацыі непісьменнасці. Курыруючы працу гэтай камісіі, Марыя Якаўлеўна рэкамендавала кіраўнікам павятовых аддзелаў асветы акцэнтаваць увагу на вырашэнні праблем ліквідацыі непісьменнасці, і яе намаганні не прапалі дарэмна. Так, 2—7 студзеня 1921 года адбыўся агульны з'езд працаўнікоў асветы і культуры Ігуменскага павета, на якім прысутнічала 235 настаўнікаў і работнікаў культурна-асветных устаноў. На з'ездзе абмяркоўваўся даклад пазашкольнага пададдзела аб ліквідацыі непісьменнасці.

У кнізе "Народная адукацыя і педагагічная думка Беларусі (1917—1945)" (Мн., 1993) прыведзена табліца аб колькасці непісьменных мужчын і жанчын у 1921 годзе па горадзе Мінску, павятовых гарадах і паветах рэспублікі (у 116 валасцях). Усяго налічвалася 503300 непісьменных.

Дзякуючы захадам Фрумкінай толькі ў Мінску ў кастрычніку 1921 года было адчынена 60. (116 валасцях) рэспублікі ў 1921 годзе было адкрыта 979 школ. Усяго ў БССР было 1088 школ і пунктаў па ліквідацыі непісьменнасці, у якіх навучалася 39225 чалавек.

У БССР у 1921 годзе пачаўся значны рост колькасці навучальных устаноў прафесійна-тэхнічнай адукацыі. Менавіта тады ў Мінску адкрыліся школы — металістаў, дрэваапрацоўшчыкаў, паліграфістаў, абутковай і гарбарнай вытворчасці. Вучылішчы адкрываліся ў іншых гарадах: у Слуцку — металістаў, у Віцебску — металістаў, друкароў, гарбароў, у Магілёве — будаўнікоў, у Клімавічах — вучэбна-практычная майстэрня.

З 1 снежня 1920 года пры Мінскім павятовым аддзеле народнай адукацыі пачаліся заняткі на курсах падрыхтоўкі настаўнікаў для пачатковых школ. У 1921 годзе трохгадовыя педагагічныя курсы былі рэарганізаваны ў педтэхнікумы з 4-гадовым тэрмінам навучання. Тэхнікумы адкрыліся ў Мінску, Барысаве, Бабруйску, Ігумене, Мазыры. У 1920 годзе ў Віцебску пачаў працаваць інстытут народнай асветы, а ў Гомелі, Оршы, Чавусах і іншых гарадах — педагагічныя курсы.

У выніку пераходу да нэпу на дзяржбюджэце былі пакінуты толькі 2-і Мінскі беларускі педтэхнікум, Мінскі яўрэйскі педагагічны тэхнікум, Бабруйскі і Барысаўскі педагагічныя тэхнікумы і двухгадовыя польскія настаўніцкія курсы.

Асаблівую ўвагу М. Фрумкіна ўдзяляла развіццю ў БССР вышэйшай адукацыі. Дзякуючы намаганням Фрумкінай у снежні 1920 года ў Мінску пачаў працаваць Беларускі дзяржаўны політэхнікум, пераўтвораны потым у Беларускі політэхнічны інстытут. Сваім родным дзіцём называла яна Беларускі дзяржаўны універсітэт. На жаль, большасць даследчыкаў гісторыі БДУ гэты факт да цяперашняга часу сарамліва замоўчваюць. Толькі А. Кажушкоў і А. Яноўскі ў сваім артыкуле "Беларускі дзяржаўны універсітэт" (Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Мн., 1993. С. 430) адзначаюць, што 8 ліпеня 1921 года было зацверджана першае праўленне універсітэта ў складзе рэктара Пічэты, наркама адукацыі БССР Ігнатоўскага, Турука, Фрумкінай і прадстаўнікоў студэнцкага рабфака.

У тым жа 1921 годзе ЦК РКП(б) адклікае Марыю Фрумкіну ў Маскву і прызначае яе намеснікам рэктара Камуністычнага універсітэта нацыянальных меншасцяў Захаду імя Ф. Мархлеўскага. У 1925—1930 гадах яна працавала рэктарам гэтага універсітэта. Адначасова ў 1921—1930 гадах Фрумкіна з'яўлялася членам Цэнтральнага Бюро яўрэйскіх секцый пры ЦК ВКП(б).

25 студзеня 1938 года яе арыштавалі, а 2 чэрвеня 1940 года асудзілі да 8 гадоў папраўча-працоўных лагераў па абвінавачванні ў прыналежнасці да "Нелегальнай яўрэйскай контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі". Марыя Якаўлеўна памерла 9 чэрвеня 1943 года ў лагеры ля Караганды.

**Эмануіл ІОФЕ,**
**прафесар БДПУ імя Максіма Танка,**
**доктар гістарычных навук**



**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета**
**пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66**

21 — І. Стравінскі "Жар-птушка", "Вясна свяшчэнная"
23 (раніца) — Б. Паўлоўскі "Беласнежка і сем гномаў"
26 (раніца) — С. Кібірава "Тры парасяты"
28, 30 (раніца) — І. Марозаў "Доктар Айбаліт"
28 (вечар) П. Чайкоўскі "Шчаўкунчык"
30 П. Чайкоўскі "Лебядзінае возера"
**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**
**пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-10-41**

22 — Д. Пучыні "Тоска"
23 — Д. Вердзі "Аіда"
25 — П. Чайкоўскі "Яўгеній Анегін"
27 (раніца) — М. Мінкоў "Чароўная музыка"
27 (вечар) — Д. Пучыні "Турандот"
29 (раніца) — Ц. Кюі "Кот у ботах"
29 (вечар) — Д. Вердзі "Травіята"
**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны музычны тэатр**
**вул. Мяснікова, 44, тэл. 220-81-26, 220-92-54**

21, 22 — "Галактыка кахання", музычнае шоу
23 (раніца) — І. Левін "Айбаліт-2002", мюзікл
23 — Вечар балета
25, 26 — А. Рыбнікаў "Юнона" і "Авось", рок-опера

## АФІША САКАВІКА

27 — І. Штраус "Цыганскі барон", камічная опера
28 — К. Лістоў "Севастопальскі вальс", рамантычная музычная камедыя
29 — О. Штраус "Капялюш Напалеона", аперэта
**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы**
**вул. Энгельса, 7, тэл.227-17-17**

21 — А. Курэйчык "Згублены рай", драма (прэм'ера)
22 — М. Манохін "Парфён і Аляксандра", пастараль
23 (раніца) — С. Кавалёў "Трыстан ды Ізольда", рамантычная гісторыя
23 (вечар) — А. Астроўскі "Лес", камедыя.
24 — Д. Патрык "Дзіўная місіс Сэвідж", камедыя (прэм'ера)
26 — К. Гальдоні "К'еджаўскія перабрэхі", камедыя
27 — Урачысты вечар, прысвечаны Міжнароднаму дню тэатра
28, 29 — У. Бутрамееў "Страсці па Аўдзею", народная драма

**Малая сцэна**
**вул. Энгельса,12**

22 — А. Папова "Муж для паэтэсы", камедыя-імправізацыя
23 — Д. Хуан "Дом, дзе спяць прыгажуні", японская гісторыя
26 — А. Казанцаў "Брат мой, Сіман...", драма
**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага**
**вул. Валадарскага,5, тэл. 220-15-41, 220-39-66**

**Вялікая сцэна**

23 — Ф. Рэньяр "Адзіны спадкаемца", камедыя
26 — А. Капіт "Тата, тата, бедны тата!.."
27 — "Амфітрыён", інтымныя сцэны з жыцця людзей і багоў
28 — У. Шэкспір "Трагічная аповесць пра Гамлета, прынца Дацкага"
29 — А. Папова "Снеданне на траве" (прэм'ера), трагікамедыя

**Малая сцэна**

27 — "Мой тэатр", монаспектакль А. Клімавай
**Пачатак ранішніх спектакляў а 11-й, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**
**вул. Крапоткіна, 44, тэл. 234-60-08**

22 — С. Кавалёў "Балада пра Бландою", сцэны нянавісці і кахання
**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр**
**вул. Даўмана,1, тэл. 289-32-62**

22 – У. Шэкспір "Жарсці ў Віндзоры", камедыя
23, 26 — Бамаршэ "Вар'яцкі дзень, альбо Вяселле Фігара"
25 — Г. Уільямс "Трамвай "Жаданне"
27 — Ж.-Б. Мальер "Хітрыкі Скапэна"
28 — А. Астроўскі "Позняе каханне", раман
29 — І. Зінген "Тойбеле і яе дэман", трагікамедыя
**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Тэатр-студыя кінаакцёра**
**пр. Машэрава,13, тэл. 223-08-11**

22, 23 — А. Астроўскі "Таленты і прыхільнікі"
25, 26 — Г. Салоўскі "Вострау нашай любові і надзеі"
29, 30 — Л. Жухавіцкі "Апошняя жанчына сіньёра Хуана", авантурная камедыя
**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Тэатр "Вольная сцэна" Дом ветэранаў**
**(вул. Я. Купалы, 21)**

26 — Д. Каль "Водбліскі далёкіх маланак" (прэм'ера)

## АНОНС

# ДА 100-ГОДДЗЯ КЛАСІКА

**На музычным календары — год Арама Хачатурана. 100-годдзе сусветна вядомага кампазітара адзначаюць і на Беларусі. Прынамсі, у Вялікім тэатры 24 сакавіка пройдзе канцэрт Сімфанічнага аркестра Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы, арганізаваны пры садзейнічанні Пасольства Арменіі ў нашай краіне і прысвечаны гэтаму юбілею.**

**Праграма складзена з "хітоў": тут і "Танец з шаблямі" (самы папулярны нумар з балета "Гаянэ"), і фрагменты са "Спартака", і вальс з музыкі да драмы М. Лермантава "Маскарад", і Скрыпічны канцэрт А. Хачатурана. Выканаць партыю саліста запрошаны Сяргей Качатран — малады скрыпач з ужо гучным сусветным імем. Ён толькі тры гады займаўся ў Ерэванскай музычнай школе, а затым прадоўжыў навучанне ў германскіх прафесароў. Ён перамагаў на прэстыжных міжнародных конкурсах, выступаў у Германіі, Францыі, Італіі, Іспаніі, Швецыі, Фінляндыі, Эквадоры, Бразіліі, Арменіі, ЗША. Восенню 2002-га іграў у Мінску, разам з нашым Юнацкім сімфанічным аркестрам, пацвердзіўшы меркаванні замежных крытыкаў наконт выключнасці таленту Сяргея. 24 сакавіка за дырыжорскім пультам будзе Аляксандр Анісімаў.**

**Я. КАРЛІМА**



*НА ЗДЫМКУ: лаўрэат міжнародных конкурсаў, Гран-пры "Ян Сібеліус" (Хельсінкі) С. КАЧАТРАН.*



**ЗАЛА КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ (пр. Ф. Скарыны, 44а)**

**21 — Арганны канцэрт.** Іграе Т. Шчэрба (Масква). У праграме І. С. Бах, Свелінк, Рэгер ды інш.

**22 — Гучыць раяль.** Граюць студэнты Беларускай акадэміі музыкі, выхаванцы класа прафесара Ю. Гільдзюка.

**27 — Канцэрт, прысвечаны 35-годдзю творчай дзейнасці дацэнта кафедры камернага ансамбля БАМ І. Галачкінай.**

## У СТАЛІЦЫ

Удзельнічаюць студэнты і выпускнікі яе класа. У праграме творы Пуленка, Бетховена, Брамса, Франка, Мендэльсона, Бабаджаняна.

**28 — Трыо "Мінск",** Ансамбль баяністаў у складзе У. Гудзея, В. Пісарчык (мастацкі кіраўнік), С. Бандаровіча грае творы П'яцолы, І. С. Баха, Вівальдзі, Шуберта ды інш.

**КАНЦЭРТНАЯ ЗАЛА "МІНСК" (вул. Кастрычніцкая, 5)**

**21 — Зоркі расійскай опернай сцэны** ў спектаклі "Севільскі цырульнік" на музыку Расіні. Салісты П. Глубокі, В. Вярэснікаў, В. Шосцьды інш. Камерны ансамбль аркестра Вялікага тэатра Расіі.

**27 — Артыст тэатра і кіно М. Карачанцаў (Расія)** з канцэртнай праграмай "Што табе падарыць?"

**ПАЛАЦ РЭСПУБЛІКІ**

**26 — Спявае народны артыст СССР І. Кабзон (Расія).**

## АКЦЭНТ АФІШЫ

# КЛАСНЫ КАНЦЭРТ!

ПРАФЕСАР ЮРЫЙ ГІЛЬДЗЮК (на здымку) апладзіруе малодшым сваім калегам і... вучням. Неверагодна? Ды чаму ж не павітаць-павіншаваць таленавітых выхаванцаў пасля ўдалага выступлення! Зрэшты, чарговае іх выступленне мае адбыцца заўтра, 22 сакавіка ў сталічнай Зале камернай музыкі. Клас прафесара, заслужанага артыста Беларусі, мастацкага кіраўніка Беларускай дзяржаўнай філармоніі Ю. Гільдзюка дае канцэрт з цыкла "Настаўнік і вучні".

Здавалася б, не так і даўно былі сярод яго вучняў знаныя сёння піяністы, лаўрэаты міжнародных конкурсаў Андрэй Сікорскі, Андрэй Паначэўны... А сённяшні клас Юрыя Мікалаевіча — ужо новая моладзь. Іх толькі чацвёра: першакурсніца Беларускай акадэміі музыкі Валерыя Янкоўская, студэнт 5 курса Кірыл Герольд, лаўрэаты міжнародных конкурсаў Сяргей Смірноў (таксама пяцікурснік) ды Аляксандр Палякоў — вучань выпускнога, 12-га класа Рэспубліканскага каледжа пры БАМ.

Гэта творчая чацвёрка пад кіраўніцтвам свайго настаўніка зрабіла нядаўна паспяховае філарманічнае турнэ па гарадах краіны: ім апладзіравалі ў Маладзечне, Лідзе, Гродне, Гомелі. Што абяцае заўтрашні канцэрт ў Мінску? На афішы — І. С. Бах, К. М. Вебер, Ф. Шуберт, Л. ван Бетховен, Ф. Ліст. Партыта, ронда, тры санаты. Эфектная і складаная музыка. Праўда, Ю. Гільдзюк ніколі не каменціруе праграму, якую прэзентуючы публіцы яго вучні. Ён проста прадстаўляе іх перад залай — таленавітых "сваіх дзяцей", за якіх штораз перажывае, хваліецца і радуецца.

**С. Б.**

**Фота А. МАЦЮША**





Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**
**Віктар ШНІП**

**Рэдакцыйная рада:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**
**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:** 220005, Мінск, вул. Захарава, 19
**ТЭЛЕФОНЫ:**
намеснік галоўнага рэдактара — 284-44-04

**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 284-7965
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965
літаратурнага жыцця — 284-7965
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965
паэзіі і прозы — 284-7965
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-7965
карэктарская — 284-8091
бухгалтэрыя — 284-4991
Тэл./факс — 284-85-25

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1649
Нумар падпісаны ў друк 19.03.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 704

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12